PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 9 (2129) Год XLII Беласток 2 сакавіка 1997 г. Цана 1 зл.

# Што далей?

**1 сакавіка адбудзецца з'езд Беларускага саюза ў Рэчы Паспалітай. Напярэдадні з'езда са старшынёю ЯЎГЕНАМ ВАПАМ гутарыць Мікола Ваўранюк.**

***— Спадар старшыня, што было зроблена ў Беларускім саюзе за два гады вашага старшынства?***

— Нагадаю, што пасля пройгрышу на парламенцкіх выбарах у 1993 годзе ў беларускім руху наступіў занапад. Адчувалася стагнацыя, ніхто не верыў у паспяховасць якіх-небудзь дзеянняў. Беларускі саюз узяў на сябе задачу аб'ядноць наш рух і зарадзіць яго энергіяй. Мы наладзілі пастаянныя кантакты між старшынямі паасобных арганізацый, абмяркоўвалі бягучыя праблемы і рэагавалі на падзеі ў грамадскім жыцці, якія маюць дачыненне да нас.

***— Яднанне не заўсёды атрымлівалася. Звяз беларускай моладзі пакінуў структуры Беларускага саюза.***

— Гэта адзін з балючых фактаў. На яго прыкладзе можна пабачыць, якія памылкі былі дапушчаны ў каардынацыі міжарганізацыйнага жыцця. А таксама можна вучыцца, як важная адказнасць за выказваныя і пісаныя словы, і што абазначаюць дэмакратычныя суадносіны. Але пасля выхаду ЗБМу з Саюза нашы кантакты не парваліся, мы бываем на іх імпрэзах, яны — на нашых. Спадзяюся, што з часам паявяцца нейкія формы плённага супрацоўніцтва.

***— На што канкрэтна рэагаваў Беларускі саюз?***

— Мы некалькі разоў публічна займалі пазіцыю хаця б у дачыненні да сітуацыі ў Беларусі. Таксама выказаліся ў справе будынка БГКТ на вуліцы Варшаўскай у Беластоку. У час канфлікту між Беларускім таварыствам і горадам мы заявілі, што будынак павінен заставацца ў беларускіх руках і служыць усім беларусам. Гэта ёсць у дакументах, так што няхай цяпер не гавораць, што мы гэтым не цікавіліся. Мы паслядоўна выступалі да беластоцкага ваяводы, каб назначыў ён упаўнаважанага па справах нацыянальных меншасцей. Потым, зрэшты, моцна яго крытыкавалі за стыль, метады працы і выказванні, у якіх памяншалася роля беларусаў Беласточчыны. Усе старшыні арганізацый Беларускага саюза падпісаліся пад афіцыйнай крытыкай упаўнаважанага, скіраванай на рукі ваяводы. У выніку, як ведаем, перастаў ён выконваць свае абавязкі.

***— Ці цяпер не шкадуеце, што дамагаліся гэтага ўпаўнаважанага?***

— З перспектывы часу, шкадую. Адміністрацыя яшчэ раз даказала, што калі прымусіш яе нешта зрабіць, а яна не старэецца зразумець патрэбы гэтага і не ўкладае сэрца ў справу, то нічога не атрымаецца.

***— Давайце вернемся да дзейнасці Беларускага саюза.***

— Ад студзеня 1995 года вядзем намаганні ў справе беларускіх праграм у беластоцкім тэлебачанні. Дзесяткі выездаў у Варшаву, перамоў і афіцыйных пісем, і найважнейшае, дзесяць тысяч сабраных подпісаў зрабілі сваё. Больш года Варшаўскі асяродак тэлебачання трансляваў раз у месяц дваццаціхвілінныя беларускія перадачы, цяпер будуць яны таксама ў Беластоцкім асяродку. Якія, гэта залежыць ад дырэкцыі, бо мы, са свайго боку, склалі гатовую канцэпцыю, маем таксама людзей, якія могуць такія праграмы рабіць. Успомненыя подпісы датычыліся таксама павелічэння эфірнага часу беларускіх перадач у Беластоцкім радыё. Дырэктар Ежы Мушынскі ўжо абяцаў, што такое павелічэнне будзе мець месца.

***— Я хацеў бы звярнуць увагу, што Беларускі саюз у сваёй дзейнасці выйшаў на ўсякага роду фонды, якія могуць фінансава ўспамагчы высакародныя ініцыятывы. Гэтага раней у нас не было.***

— Гэта, я лічу, патрэба часу. Дзякуючы таму, што мы не разлічваем адно на дапамогу Міністэрства культуры, але бамбардзіруем нашымі заявамі такія ўстановы як Фонд Баторыя, Фонд культуры ці іншыя, маем магчымасць праводзіць цэлы шэраг мерапрыемстваў, якіх інакш проста не было б. Назаву некаторыя, у сваёй задуме, серыйныя: Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы, Польска-беларускі літаратурны семінар „Бязмежжа", дыскусійны семінар „Беларусы Бельшчыны". Дзякуючы такім кантактам можа развівацца наш культурны праект „Бельск — сэрца памежжа".

***— А што не ўдалося?***

— Па сённяшні дзень няма Беларускага цэнтра культуры і Беларускага навуковага інстытута ў Беластоку. Не так як хацелася б ішлі справы школьніцтва, хаця пэўны зрух тут заўважаецца. У студзені на пасяджэнні сеймавай Камісіі нацыянальных меншасцей даведаліся мы, што ёсць шанцы на выданне падручніка па гісторыі Беларусі. Супольна з Беларускім гістарычным таварыствам і Грамадскай камісіяй па справах рэформы беларускага школьніцтва пад старшынствам Васіля Ляшчынскага будзем арганізаваць метадычныя канферэнцыі, прысвечаныя асветнай працы ў нашым нацыянальным асяроддзі. Я схіляю галаву перад людзьмі, якім ужо другі год удаецца ўтрымаць польска-беларускі дзіцячы садок у Беластоку. Па меры нашых магчымасцей, будзем ім дапамагаць. Мы атрымалі грошы з Міністэрства нацыянальнай адукацыі на распрацоўку праграмы беларускай тэматыкі ў прадшколлях. Спадзяюся, што ў іншых мясцовасцях Беласточчыны знойдуцца прадшколлі, якія пойдуць услед за беластоцкім. Таксама, калі ўдасца ўпершыню ў Беластоку стварыць беларускі клас, гэта для нас будзе надзвычай важная справа. Карыстаючыся нагодай, хачу выказаць вялікія словы ўдзячнасці Ганне Кандрацюк, і ўсёй рэдакцыі „Нівы", за сустрэчы „Зоркі"

[працяг ☞ 4]



# Як нас бачаць

Яўген МІРАНОВІЧ

Большасць гасцей з цэнтра Польшчы, якія апошнім часам наведалі нашу рэдакцыю, пра беларусаў Беласточчыны мелі вельмі асаблівае ўяўленне. Чамусьці амаль усе яны былі пераканы, што кожны тутэйшы праваслаўны з'яўляецца адначасова нацыянальна свядомым беларусам, які прынамсі ў прыватным ці сямейным жыцці карыстаецца сваёй роднай мовай. Звонку хочуць бачыць нас як нешта іншае, чым нашы суродзічы ў Рэспубліцы Беларусь, якія ахвотна адказваюцца ад усяго, што напамінае ім нацыянальную і дзяржаўную самастойнасць. Палякам невядома чаму здаецца, што ў Польшчы былі лепшыя ўмовы для развіцця беларускай культуры і нацыянальнай свядомасці, чым у расейскай імперыі, для прыліку названай Савецкім Саюзам. З немалым здзіўленнем успрымаюць яны інфармацыю, што на Беласточчыне няма ніводнай беларускай школы, што толькі ў некаторых вядзецца навучанне беларускай мовы як неабавязковага прадмету, дзе вынікі адукацыі ў гэтай галіне залежаць выключна ад заангажаванасці і волі настаўніка. Некаторыя адказваюць, што сам факт навучання роднай мове дае нейкія падставы, каб акрэсліць школу як беларускую. Звяртаем тады ўвагу нашым суразмоўцам, што ва ўсіх беластоцкіх ліцэях, а нават пачатковых школах дзеці і моладзь вывучаюць нямецкую ці англійскую мову як абавязковы прадмет, але ніхто гэтых школ пакуль што не называў англійскімі ці нямецкімі.

Чарговы несмяротны міф пра тутэйшых беларусаў гэта тое, што на Філіяле Варшаўскага універсітэта ў Беластоку маем знакамітую беларускую філалогію, а таксама што на патрэбы нашай меншасці выдатна працуе Кафедра беларускай філалогіі ў Варшаве. У гэтай апошняй установе прыгнятаючую большасць студэнтаў складаюць палякі. Пасол Войцех Аркушэўскі (раней з Уніі вольнасці, цяпер Партыі кансерватыўна-народнай), які нядаўна быў госцем нашай рэдакцыі, сказаў, што ён сам і большасць яго партыйных калег былі пераканы, што ў Беластоку існуе нейкая беларуская навуковая ўстанова, дзесяткі беларускіх школ, а вялікая частка жыхароў горада размаўляе на беларускай мове.

У адрозненні ад гасцей з іншых куткоў Польшчы, мясцовыя палякі ведаюць, што недзе ў горадзе жывуць людзі некаталіцкага веравызнання, якіх афіцыйна называюць беларусамі, неафіцыйна „рускімі", ці пагардліва „кацапамі". З тутэйшага польскага пункту гледжання з'яўляемся нейкім куль-

[працяг ☞ 4]

# Мы прачыталі

*Z dobrze poinformowanych źródeł dowiedzieliśmy się, że SLD obiecało szefowi Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego Janowi Syczewskiemu trzecie miejsce na swojej liście. Syczewski zostanie posłem, bo SLD może zdobyć trzy z siedmiu przypadających na województwo białostockie mandatów. Białorusini stanowią czwartą część mieszkańców województwa. Ale Białorusini są podzieleni. Część z nich utożsamia się z Cerkwią, której hierarchowie z rezerwą odnoszą się do białoruskości. Inni trzymają się ugrupowań o postkomunistycznej proweniencji; jeszcze inni, najmniej liczni, związani ze Związkiem Białoruskim, stawiają przede wszystkim na odrodzenie narodowe.*

*SLD od dłuższego czasu zabiega o poparcie dwóch najliczniejszych środowisk. O tym, że pozyskał sobie środowiska cerkiewne, świadczą związki redaktora „Przeglądu Prawosławnego" Eugeniusz Czykwina z Unią Chrześcijańsko-Społeczną, która weszła do SLD. Teraz do Sojuszu włączy się BTSK. A, że w polityce miłość platoniczna bywa zjawiskiem niezmiernie rzadkim, więc przypuszczać można, że Sojusz nie otrzymuje za darmo sympatii Białorusinów. Być może jedną z form gratyfikacji jest na przykład obsada programów dla mniejszości w białostockiej telewizji, odsunięcie ludzi ze Związku Białoruskiego i zastąpienie ich sojusznikami z Bractwa Prawosławnego i BTSK?*

*Kurier Poranny, nr 32*

* * *

*Konflikt, który powstał wokół wizji programów mniejszościowych w białostockiej telewizji jest wynikiem zderzenia dwóch różnych sposobów myślenia o problematyce narodowościowej: wiary, że z Białostocczyzny można uczynić coś w rodzaju namiastki dawnych Kresów oraz zdecydowanej postawy części środowisk białoruskich gotowych bronić zagrożonej świadomości. Ideologia kresowa to pewien styl myślenia typowy dla kierownictwa białostockiej telewizji, byłego pełnomocnika Halickiego oraz zapewne wielu innych. Można to określić jako ideologię neokresową. Jej podstawowymi wyznacznikami są m.in. mnożenie mniejszości, traktowanie ich wszystkich wyłącznie jako uszlachetniowej domieszki do polskiej kultury, redukowanie spraw narodowościowych do folkloru. Neokresowiak lubi mniejszości, chwali się ich mnogością i różnorodnością, przenikaniem kultur, ale nie może znieść, gdy któraś z tych mniejszości chce się wybić na samodzielność. Gdy podkreśla swoją odmienność, język, znaczenie polityczne, próbuje wciągnąć ją za łeb do wspólnego kotła, tygla, czy okienka. Neokresowiak, jeśli nawet od dzieciństwa mieszka na tych terenach, nie rozumie istoty narodowości, co za tym idzie nie ma zrozumienia dla aspiracji narodowościowych u innych. Lubi natomiast nazewnictwo związane z ową utraconą mityczną krainą. Przykładem był „Kurier Kresowy" w telewizji, program informacyjny o Białostocczyźnie.*

*Kurier Poranny, nr 33*

* * *

*30 milionów ludzi w Rosji oddało głosy na Ziuganowa. Oni nie dlatego tak głosowali, że podobają im się sekretarze postkomu i chcą płacić składki, ale dlatego, że obecna władza tak urządziła im życie. Ludzie przed sobą widzą tylko ścianę przez którą nic nie widać. Kiedy człowiek nie widzi nic przed sobą, nie może pójść naprzód, wtedy głowa sama odwraca się do tyłu, człowiek zaczyna patrzeć w przeszłość, idealizuje ją, wspomina, że owszem, życie nie było takie słodkie, ale wszystko było na swoim miejscu, było zorganizowane, zagwarantowane. Wiedział, gdzie się leczyć, gdzie uczyć, dokąd jechać na wypoczynek. Kto nie tęskni za ZSRR musi nie mieć serca. Kto chce jego powrotu, nie ma rozumu,* — сказаў Аляксандр Лебедзь.

*Gazeta — Magazyn, nr 6*

* * *

*Сённяшні парламент легітымны,* — сказаў Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка, прэзідэнт Беларусі.

*Голас Радзімы, н-р 6*

Аднак ніхто не паверыў Аляксандру Рыгоравічу.

* * *

*Od kilku miesięcy nakłady kaset z muzyką disco polo spadają na łeb, na szyję! Disco polo przegrywa z muzyką pop i na powrót staje się prowincjonalnym folklorem. Disco polo trzyma się wciąż mocno we wschodniej Polsce — na przykład w okolicach Białegostoku, gdzie jest najwięcej klubów-dyskotek grających tę muzykę i gdzie zaczęła się discopolowa epopeja.*

*Gazeta Wyborcza, nr 31*

Усё вяртаецца да каранёў... беларускіх.

* * *

*Jesteśmy jednym z najbardziej bezzębnych społeczeństw w Europie. Wszyscy mieszkańcy wsi chorują na próchnicę. Niewiele lepiej jest w mieście.*

*Polityka, nr 6*

* * *

*Jestem kawalerem, 53 lata, 172 cm wzrostu. Mam ładne mieszkanie i samochód. Poznam panią w wieku około 30 lat.*

*Pani domu, nr 6*

А дваццацігадовай, дзядулька, не хочаце?

* * *

*W czołówkach rozmaitych ruchów na rzecz „wyboru" i aborcyjnych referendów prym wiodą panowie znani jako notoryczni dziwkarze.*

*Gazeta Polska, nr 5*

# З мінулага тыдня

**Сустрэча прэзідэнта Польшчы** з кіраўнікамі Беларусі і Украіны пакуль што не плануецца, аднак польскі бок не выключае магчымасці яе правядзення, калі такая сустрэча будзе мэтавай, — заявіў міністр замежных спраў **Дар'юш Расаці** ў адказ на паведамленне беларускага МЗС аб інтэнсіўнай падрыхтоўцы да трохбаковай сустрэчы. Аналізуючы развіццё польска-беларускага супрацоўніцтва, ён таксама адзначыў, што Польшча не зацікаўлена ў ізаляцыі Беларусі. Наадварот, польскі бок хоча падтрымліваць з суседняй рэспублікай сувязі, паляпшаць адносіны.

**Выбарчы камітэт Саюза левых дэмакратаў** узначаліць прэм'ер-міністр **Уладзімеж Цімашэвіч**. На сустрэчы з дзеячамі СЛД у Беластоку заявіў ён, што на сёлетніх парламенцкіх выбарах будзе балаціравацца з Беласточчыны. Намякнуў ён таксама пра сваю незадаволенасць дзейнасцю цяперашніх беластоцкіх парламентарыяў ад СЛД.

**Прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч** сустрэўся з кіраўніцтвам Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку і паабяцаў дапамогу беластоцкаму акадэмічнаму асяроддзю ў стварэнні ў горадзе самастойнага універсітэта. На думку прэм'ера, самастойны універсітэт у Беластоку мае вялікі шанц пачаць дзейнасць у наступным акадэмічным годзе. Пяць месяцаў таму мясцовыя парламентарыі забавязаліся падтрымаць праект закона аб беластоцкім універсітэце, калі Філіял ВУ выканае ўсе патрабаванні Вярхоўнай рады вышэйшага школьніцтва. На пяці аддзяленнях ФВУ вучыцца 14 тысяч студэнтаў. У 1995 годзе за самастойнасць філіяла выказаўся Сенат Варшаўскага універсітэта.

**Сусветны дзень праваслаўнай моладзі** адзначаўся 15 лютага, у дзень Стрэчання Гасподняга. Гэтае свята было ўстаноўлена падчас Генеральнай Асамблеі Сындэсмаса ў чэрвені 1992 года ў Маскве. Сусветнае брацтва праваслаўнай моладзі Сындэсмас, якога сядзіба цяпер знаходзіцца ў Беластоку, гуртуе 118 арганізацый з 40 дзяржаў свету.

**Obiektyw** — 20-хвілінная рэгіянальная інфармацыйная перадача пачала 16 лютага г.г. дзейнасць **Беластоцкага тэлецэнтра**. Кіраўніцтва TV Беласток намервацца паступова выпускаць у тэлеэфір чарговыя перадачы, у тым ліку праграмы для нацыянальных меншасцей.

**Радыётэлевізійны трансляцыйны цэнтр у Крыніцах** каля Беластока здадзены ў карыстанне пасля мадэрнізацыі. Дзякуючы новаму перадатчыку II праграма TVP будзе прымацца на 70% тэрыторыі Беластоцкага ваяводства. Будуць тут яшчэ пастаўлены перадатчыкі Беластоцкага тэлецэнтра і тэлеканала Польсат.

**Капліцу ў Следчым арыштце ў Гайнаўцы** высвяціў каталіцкі біскуп **Антоні Дыдыч** і гайнаўскі благачынны а. **Міхал Негярэвіч**. У арыштце зараз знаходзіцца 200 чалавек, галоўным чынам каталіцкага веравызнання. Апрача таго тут адбываюць пакаранне 20 грамадзян краін СНД. Каталіцкія набажэнствы адпраўляюцца тут у кожную нядзелю, а праваслаўны капелан духовую паслугу нясе зняволеным па меры патрэбы.

**У выніку аварыі энергацягі** 16 лютага г.г. некаторыя цягнікі на лініі Беласток—Кузніца прыязджалі ў Беласток і выязджалі адсюль са значным спазненнем (ад 60 да 170 мінут), а два паязды ўвогуле не выехалі на трасу. Вінаўнікам аварыі аказаўся цягнік Берлін—Варшава—Санкт-Пецярбург, які на станцыі Чорны Блок пашкодзіў кантактную сецць і заблытаўся ў электраправадах.

# Весткі з Беларусі

**Марш у Еўропу**

Каля 2 тысяч маладых жыхароў беларускай сталіцы пад бел-чырвона-белымі сцягамі і флагамі Еўрапейскага Саюза дэманстравала ў цэнтры Менска, уручаючы замежным дыпламатам заявы, у якіх гаворыцца, што моладзь не хоча інтэграцыі з Расеяй, а толькі ўваходу Беларусі ў еўрапейскія структуры. Дэманстранты, скандзіруючы лозунгі „Хочам у Еўропу!", „Беларусь у Еўропу, Лукашэнка ў ж...", прайшлі ля будынкаў заходнееўрапейскіх пасольстваў. Сакратарыят БНФ паведаміў, што міліцыя затрымала некалькі дзесяткаў удзельнікаў акцыі. Паколькі дэманстрацыя праводзілася 14 лютага — у дзень закаханых — шэсце было разнакаляровае і спантаннае. У маладых людзей на тварах былі намаляваны выявы сэрца, кветак і надпіс „люблю цябе".

**II праграма БТ**

Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Іван Пашкевіч паведаміў, што ў Беларусі будзе пашырацца нацыянальная сетка тэлерадыёвяшчання. Плануецца стварэнне другога тэлевізійнага канала, які будзе транслявацца на частотах маскоўскага ОРТ. З чатырох расейскіх тэлеканалаў свае вяшчанне аплачвае толькі НТБ, астатнія трансліруюцца за кошт беларускага бюджэту. На тэрыторыі рэспублікі беларуская культура і беларуская мова павінны функцыянаваць у поўным аб'ёме. Такі накірунак падтрымлівае і прэзідэнт, зазначыў Іван Пашкевіч.

**Таемныя напады**

Беларуская апазіцыя выказала занепакоенасць нападамі невядомых злачынцаў на незалежных палітыкаў і журналістаў. Апошнім часам замаскіраванымі асобамі ў ліфце каля сваёй кватэры пабіты быў Анатоль Лябедзька. Таксама нехта невядомы двойчы выстраліў у акно кабінета галоўнага рэдакатара газеты „Свабода" Ігара Германчука ў яго кватэры, калі нікога не было дома. Лябедзька і Германчук — апазіцыйныя дзеячы.

**Юбілей Алеся Звонака**

Вядомаму паэту Алесю Звонаку нядаўна споўнілася 90 гадоў. Жыццё паэта не было лёгкім. Надрукаваўшы свой першы верш у 1925 г., ён паспеў выпусціць некалькі зборнікаў да арышту. Як і многія беларускія літаратары, зведаў ён сталінскія лагеры, адбыўшы ў іх 10-гадовы тэрмін. У 1954 г. быў рэабілітаваны і ўжо з 1957 г. зноў пачаў друкавацца.

**У гонар афганцаў**

Жалобны мітынг, прысвечаны памяці загінуўшых у Афганістане воінаў, прайшоў 15 лютага ў Менску. Больш за тысячу чалавек сабралася ў цэнтры сталіцы на Востраве Слёз, дзе размешчана капліца-помнік загінуўшым у Афганістане.

**Новыя падаткі**

Браць дадатковыя падаткі, як заходнія меры, вырашылі ўлады сталічнага Менска. Увядзенне новага збору плануецца з 1 сакавіка г.г. Кадастр такіх падаткаў уключае збор за ўтрыманне пасажырскага транспарту, аказанне некаторых відаў паслуг, рэкламную дзейнасць, а таксама на продаж піва, віна-гарэлачных і тытунёвых вырабаў. Плацельшчыкамі стануць усе юрыдычныя асобы, у тым ліку замежныя.

**Японская дапамога**

На тэрыторыі рэспублікі пачала дзейнасць японская грамадская арганізацыя „Чарнобыльская дапамога", якая да гэтага пяць гадоў праводзіла на Украіне шырокамаштабную дабрачынную акцыю пад назвай „Ранні дыягназ і лячэнне захворванняў на рак шчытападобнай залозы ў дзяцей". Кіраўнік гэтай арганізацыі Фукаі Мамору і доктар Ямада пабывалі на Століншчыне ў вёсцы Альмана. Яны вывучылі сітуацыю хворых дзяцей і вызначылі, якая канкрэтная дапамога патрэбна юным столінцам. Чакаецца, што гуманітарны груз з медыкаментамі прыбудзе сюды з Японіі ў пачатку вясны.

**Рэкеціры-антыхрысты**

10 лютага г.г. службамі ўнутраных спраў былі затрыманы чацвёра рэкеціраў са Слоніма, якія вымагалі буйную суму валюты ў настаяцеля храма ў вёсцы Верхняе Чарніхова Баранавіцкага раёна. Шляхам пагроз і насілля злачынцы прымусілі святара напісаць даўгавыя распіскі на агульную суму 2 200 долараў ЗША. Вымагальнікі былі затрыманы на месцы злачынства пры атрыманні патрабуемай сумы.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Нараджэнне беларускай нацыянальнай ідэі.
- Беларуская Сакольшчына — рэпартаж Ганны Кандрацюк.
- Пра паэзію і паэтаў з Аленай Анішэўскай гутарыць Сакрат Яновіч.

# Крывая — вёска з характарам

**Вёска Крывая, якая дзесяцігоддзямі належала Арлянскай гміне, з прычыны незадаволенасці дзеяннямі Управы гміны ў Орлі ў апошніх гадах і ў выніку вясковага рэферэндуму восенню 1995 года вырашыла адысці да гміны Бельск-Падляшскі.**

Расказвае радная **Марыя УТКІН**:

— Сёння няма чаго абражацца, бо гэта сам войт Арлянскай гміны Міхал Іванчук прадаў Крывую на Сейміку ў Беластоку. Радны з Орлі Славамір Сахарчук быў на гэтым форуме. Войт тады сказаў: „Калі хочуць, няхай пераходзяць пад Бельск, а ўзяўшы пад увагу іншыя вёскі ў гміне Орля, то з вёскі Крывая няма даходу". А ўсё пачалося з ваяводскай дарогі на адрэзку Крывая—Орля, якою дзеці даязджалі ў школу. Ваявода двойчы даваў грошы на яе рамонт, але гміна нічога не зрабіла. Потым зліквідавалі нам школу, выключылі вулічнае асвятленне, хаця кожны год амаль мільярд старых злотых падаткаў з нашай вёскі забіралі гмінныя ўлады ў Орлі.

Вясною 1995 года напісалі мы заяву, якую група жыхароў перадала Гміннай управе. Войт сказаў тады нашым хадайнікам: „Калі вас Бельск возьме, я не буду прад'яўляць ніякіх прэтэнзій". Таксама выказваўся ён у эфіры Беластоцкага радыё. Там яшчэ дадаў, што будзе нам сорамна, калі нас Бельск не прыме. Увесь час ён думаў, што нам не ўдасца адкалоцца ад Орлі.

Калі мы настойліва працягвалі афармляць нашу задуму, войт рашуча заяўляў, што не дасць нам абсалютна нічога, што не адрамантуе дарогі, ці вулічнага асвятлення. Гмінныя дзеячы сталі прыдзірацца да жыхароў вёскі, запалохваць іх. Нават дзяцей у школе пераконвалі, што ў Крывой школа ніколі ўжо не будзе адноўлена. На сесіях рады чыноўнікі і іншыя радныя ставіліся да мяне непрыхільна. З васемнаццаці радных толькі трое патрапілі мець свае меркаванні.



Солтыс Ян Якімюк.

Пасля гадавых намаганняў і хвалявання у студзені 1996 года былі мы сардэчна прыняты Радай гміны Бельск-Падляшскі. Не зважаючы, што да канца навучальнага года засталося некалькі месяцаў, арлянскі войт неадкладна спыніў давоз нашых дзяцей на школьным аўтобусе і трэба было іх вазіць на аўтобусе з Бельска-Падляшскага. Бельская рада неадкладна вырашыла перанесці з пачаткам новага навучальнага года Пачатковую школу з Пасынак (змяшчалася яна там у старым драўляным будынку) у мураваны павярховы гмах у Крывую. Цяпер у васьмі класах вучыцца ў нас 64 дзяцей. Вядуцца тут таксама ўрокі беларускай мовы. Заняткі ў Крывой пачынаюцца ў 9 гадзін, а ў Орлі — у $7^{20}$.

Цяпер вечарам на вуліцы ў нас відно, святло гарыць усю ноч. У Бельску ў Радзе і ва Управе гміны лепшая атмасфера. Карыстаемся паслугамі амбулаторыі на вуліцы Ягелонскай.

За мінулы год разам з калгасам заплацілі мы 700 млн. старых зл. падаткаў, але ўжо ў бюджэт Бельскай гміны.

Расказвае солтыс вёскі **Ян ЯКІМЧУК**:

— Абавязкі солтыса выконваю першую кадэнцыю і стараюся даказаць, што можна ў вёсцы зрабіць многа добрых спраў. Новая гміна ў Бельску ў некалькіх выпадках пагасіла падаткі для маламаёмных пенсіянераў. Раней арлянскі войт нават гаварыць аб гэтым не хацеў. Не запрашалі нас на сесіі. Сялецкую раду запрасілі толькі тады, калі напісалі мы заяву ва Управу гміны ў Орлі. Тамашнія чыноўнікі не хацелі рамантаваць нам дарогі і вулічнага асвятлення. Цёмна было хадзіць у краму і насіць малако ў *злеўню*.




У рэферэндуме ўсе жыхары амаль аднадушна выказаліся за далучэнне да гміны Бельск-Падляшскі (за — 245 галасоў, супраць — 1, няважных галасоў — 2). На канец рэферэндуму адзін з членаў арлянскай камісіі нават выстраліў з нейкага пісталета — мо для віватy, або спалоху. Многія гэта бачылі.

Пасля рэферэндуму арлянскі войт забраў школьны аўтобус, у выніку чаго пазбавіў давозу таксама дзяцей са Шчытоў-Дзенцялова і Шчытоў-Навадвораў, якія пасля ездзілі з нашымі на бельскім аўтобусе. Маем цяпер вельмі добрага, сумленнага шафёра, які нават калі і падвязе дарослага пасажыра, то грошай сабе не бярэ, але аддае іх школе або купляе дзецям мандарыны, бананы і цукеркі.

У снежні мінулага года жыхары вёскі і калгас атрымалі ваду з бельскага водаправода. Рабочыя не раз працавалі аж да поўначы, каб паспець на час. Пачалася замена азбеставых труб на вуліцы, зрабілі нам гравійку ў Агароднікі, а святло гарыць у нас кожны дзень ад $16^{30}$ да $6^{30}$.

Наша Крывая — гэта вёска з перспектывай і з характарам. У нас апрача пенсіянераў ёсць сорак маладых гаспадароў і калгас. Нашы гадавыя падаткі — гэта 700 млн. старых зл. Па ліку насельніцтва (каля 300 душ) Крывая займала трэцяе месца (па Орлі і Кашалях) у Арлянскай гміне.

Стаўленне бельскіх улад на нашых праблем намнога лепшае ад арлянскіх. Аж хочацца туды ездзіць. Выйдзеш на шашу і зараз апынешся ў Бельску.

**Гутарыў Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# Нашы і іншыя

Быў восеньскі дзень. Спачатку імжыў халодны дождджык. У гэты дзень трэба было завезці сына на ўколы. Педыятр агледзеў малога, выпісаў яму лякарствы. Мы з мужам адразу паехалі ў Гайнаўку. Машын было шмат — серада, кірмаш. У азначаных месцах, дзе можна паставіць машыну, не было дзе ўціснуць шпільку. Паставілі мы аўто непадалёк агароджы рынку. На тратуары сядзела румынка з грудным дзіцём і бальшым хлопчыкам. Немаўля было захутанае ў нейкую бурую радзюжку.

Муж пайшоў адразу ў аптэку, а я сядзела з малым у машыне. Прыглядалася. Калі праходзіў нейкі чалавек, румынка працягвала руку, паказваючы на немаўля. Розныя былі да яе адносіны: хто кідаў ёй на прыпол пару грошыкаў, хто праходзіў моўчкі, а хто лаяўся: „Ідзі к чорту, не перашкаджай людзям ісці!" Адзін малады мужчына заверашчаў: „Старая к..., нарабіла гэтых байструкоў, а цяпер хоча, каб мы іх гадавалі і яшчэ ёй плацілі!"

Сонца выбірнула з-за хмар. Відаць, дзіцятка стала плакаць — маці пачала яго калыхаць і адкрыла твар. Выслала хлопчыка ў краму. Прынёс ён нейкі напітак, і маці пачала паіць ім малое. Людзі далей праходзілі міма, хто нешта кінуў румынам, хто лаяўся. Цікава, падумала я, што тыя, хто так праклінае, рабілі б, калі б апынуліся ў падобных абставінах? Мо і ім прыйшлося б прасіць міласціну?..

Лепш даць самому пару грошай, чым іх прасіць.

Калі не можаш даць грош, дык не праклінай жабрака.

Старажылы паўтараюць: „Ад турмы і ад торбы не ўратуюць ногі".

**АЎРОРА**

# Пажартаваў

Трох, больш-менш васемнаццацігадовых хлопцаў з Тыневіч паехалі ў суседняе Курашава па цыгарэты. Было гэта пад вечар у чацвер — у гэты дзень тыневіцкі клуб зачынены. Купілі там што трэба, селі ў „Трабант" і давай назад. Зараз за Курашавам адзін з іх закурыў цыгарэту, якою пачаставаў яго ў краме адзін мужчына. Неўзабаве раздаўся выстрал. Шафёр ад пярэпалаху пусціў руль — машына трапіла ў канаву і ўрэзалася ў прыдарожнае дрэва.

У выніку дурнога жарту з петардай у цыгарэце давялося клікаць хуткую дапамогу з Гайнаўкі. Адзін з хлопцаў моцна пашкодзіў нагу ў лытцы — парваў мышцы і сухажыллі. Другі ляжыць у гайнаўскім шпіталі са складаным пераломам нагі ў сцягне. Ці ў гэтым годзе стане хадзіць — невядома.

**(ак)**

# Сучасныя „бугі-вугі"

*Мінула чарговая нядзеля, дзень адпачынку. Не ведаю, як каму, але мне пражыць яе — адна пакута. Бо чым чалавеку заняцца на вёсцы ў зімовы час?*

*У маладога, вядома, ёсць розныя магчымасці: то да дзяўчыны паедзе, то ў мясцовай краме пры піўцы прасядзіць, а не, дык сваё „гора" у кілішку „Раялю" ўтопіць. А нам, старэйшым, што рабіць? Да суседа не пойдзеш, бо ён цябе пазбягае, ваўком з-пад ілба паглядае! Гэта не камуна! Бывала, сустрэнуцца кумы каля плота, усю нядзельку прасядзяць. У іх гаворка знаходзіцца, пра абед і ўсё апошняе забываюцца. Нават на Каляды ці Вялікдзень адзін другога ў госці пакліча.*

*Маладыя таксама інакш жылі. Амаль у кожную нядзелю танцавальныя вечарыны арганізавалі. Спектаклі ставілі, з якімі ў сваёй вёсцы выступалі, у суседнія выязджалі. Калі зіма прыходзіла, вечарамі на „кудзелю" збіраліся. Хлопцы ў карты гралі, у „фанты" з дзяўчатамі гулялі. Весела было!*

*Памятаю, як у час карнавалу „маслену" ў нас гулялі. Запускі, значыцца. Кавалеры ўжо намнога раней музыкантаў „гадзілі". А калі прыходзіў гэты дзень, гарэлку прыносілі. Дзяўчаты закуску рыхтавалі. Усё найлепшае на зборышча неслі: каўбаску сваёй вытворчасці, кумпяк салёны, што на гары пад дахам вісеў, пячэнне розных відаў. „Худочкі" і „галубцы" варылі. Збіралася кампанія ў той дзяўчыны, якая кватэру найбольшую мела. Гонар быў гаспадарам, у якіх моладзь запускі спраўляла. Бацькоў дзяўчыны маладыя гарэлкай частавалі. А тыя пасля сваю „долю" давалі. Бутэльку на стол ставілі. Пасля такой выпіўкі моладзь у святліцу на танцы ішла, дзе такой не было, гулялі ў іншай хаце, якую раней у гаспадара заказвалі і за гэта яму грошы плацілі.*

*Танцавальная вечарына працягвалася да раніцы. Пасля маладыя „на пару" дамоў разыходзіліся. Зараз дзецям нашым не бачыць таго, бо даўніна ў нас не шануецца. Адыходзіць яна з пакаленнямі. Яе месца займае „новы свет", які стварыў сваю культуру і новых „герояў".*

*Як жа далёка ім да майго пакалення?*

*Калі ў тэлевізары аглядаю нейкі канцэрт сучасных „арцістаў", нудзіць мяне проста. Іхнія „бугі-вугі", доўгія валасы з непрыстрыжанай барадою, а прытым убранне, у якім выступаюць, можа пакойніка ў магіле паварушыць, не то што чалавека на зямлі. Цяперашнія знатакі і крытыкі „высока" ацэньваюць сучасных артыстаў, хоць звычайнаму чалавеку на вёсцы зусім гэта не падабаецца.*

*Вось, напрыклад, мне вельмі па душы музыка disco polo. Спадзяюся, што не толькі мне. Фактам з'яўляецца тое, што амаль у кожнага з нас можна знайсці магнітафонныя касеты з гэтай музыкай. Нават такі палітык як Міхал Стронк, пасол ад ПСЛ, гаварыў, што disco polo заваёўвае нашы вёскі. Аднак і тут знайшліся „працўнікі", якія канстатуюць, што гэта не народная музыка, а звычайная халтура. Гаварылася аб гэтым нядаўна на другой праграме TVP. Як сказаў у спамянутай тэлеперадачы музычны крытык, музыка disco polo хутка зусім заняпадзе. Што тады будзем слухаць у нашых вёсках? Ці толькі застануцца нам у спадчыне сучасныя „бугі-вугі" і віскат кудлатых тварэў?*

***Уладзімір Сідарук***

# Якая яна была шчырая ў працы беларускай

**Расказ Леаніды Ругень з Агароднічак — сястры Веры Матэйчук (Маслоўскай).**

Наша маці Анна паходзіла з Супраслі, дык толькі па-польску гаварыла. У Супраслі ўсе па-польску гаварылі, нават праваслаўныя. Дзед Вішнеўскі, бацька нашай маці, быў з-пад Бельска. Уцёк у Супрасль, каб яго ў войска не прызвалі. Бабуля была сіратою, служыла ў Супраслі ў кагосьці.

Як мама за тату ў Агароднічкі пайшла, дык тут нацярпелася, бо тут ніхто па-польску не гаварыў, толькі па-прosту. Бывала, зайдзе да суседкі, скажа „Dzień dobry", а суседка: „О, зноў прыйшла dzień dobry, dzień dobry, будзе сабачым языком гаварыць. Сабачым языком толькі брэшаш". Тое самае з Верай. Прыйдзе і скардзіцца: „Mamo, zawsze tamta nazywa na mnie «sabaczym jazykom»".

Вера Маслоўская (1896—1981) — арганізатарка беларускага школьніцтва на Беласточчыне і Міншчыне. Удзельніца беларускай нарады ў чэшскай Празе ў лістападзе 1920 г., дзе было вырашана пачаць узброенае змаганне з усімі акупантамі Бацькаўшчыны. Суарганізатар беларускага партызанскага руху на Беласточчыне на пачатку 20-х гадоў. Галоўная абвінавачаная на „працэсе 45-ці" беларускіх патрыётаў, які адбыўся ў Беластоку ў 1923 г.

Як Вера была ўжо настаўніцай у Грабаўцы, прыязджала да нас, мама просіць: „Wiera, poczytaj mnie po białorusku". Пасадзім яе і слухаем. Яна хутка чытала.

У бежанства мы не паехалі, бо бацькі бедныя былі і дзесяцера дзяцей мелі, дык як тут ехаць. Усе, хто паехаў, дык з багацейшых былі.

Немцаў мы баяліся, пад ложкам хаваліся. Шчасце, што мама па-нямецку ўмела. У Супраслі, як была паннай, па-суседску нямецкая сям'я жыла, ад іх навучылася па-нямецку гаварыць. А Вера то служыла ў немцаў Марушэўскіх, што жылі ў чырвоным доме, дзе цяпер пошта, дык ад іх навучылася. Іхні сын вучыў.

Якая яна была шчырая ў працы беларускай! Арганізацыю вялікую стварыла, хаця я то мала ведаю, бо малая яшчэ была. Гэты шпіён, што маіх сясцёр выдаў, дык часта з імі прыязджаў. Арыштавалі Веру не дома, толькі мусіць у Коўлі, бо яна далёка ездзіла. Судзілі яе больш за тыдзень. Наплакаліся мы тады, і як сёстры ў турме сядзелі. Жыды то добрыя былі. Аднойчы, як маці ў Беласток заехала, дык калі даведаліся, што ў турму едзе, дык пасадзілі яе ў брычку і завезлі.



*Вера Матэйчук у Супраслі (самы стары здымак Веры ў яе 17(?) гадоў).*

А ў вёсцы дык камуністамі нас называлі. Хапіла, што сёстры ў турме сядзелі, дык ужо камуністы. Ніякія яны камуністкі не былі, толькі беларускі. Ужо мы думалі, што і замуж ніхто нас маладшых не возьме. Калісь я спадабалася хлопцу з Кур'янаў, які ў коннай паліцыі служыў, але зараз яму сказалі, што мае сёстры ў турме сядзяць, дык кінуў да мяне хадзіць, перапалохаўся. Нават на забаве, як затанцуеш, зараз хтосьці скажа: „Ты што, танцуеш калі твае сёстры ў турме сядзяць". А як у Варшаву іх перавезлі, у Цытадэлю, дык мы думалі, што іх там патопяць, і плакалі.

Пазней лягчэй ім было, дазволілі ім у камеры разам быць. Бацька крыху печнікам быў і грубку ім там паставіў, дык ужо ім добра было. Якое там дабро ў вязніцы можа быць. Як сёстры выйшлі, дык на мяне дзіваваліся, бо я ўжо дарослай была.

А мой брат Мікалай дык спярша ў Літву пайшоў з сябрам працы шукаць, а пасля яны ўдваіх у Мінск ішлі.

У Стоўбцах пераходзілі мяжу і яго польскія пагранічнікі забілі. Зайшлі хлеба купіць, а гэты чалавек паклікаў паліцыю і яго забілі. Паспеў яшчэ сказаць, што ён з Агароднічак, і хто яго бацькі і сканаў. Тады яшчэ сёстры сядзелі ў вязніцы, як яго забілі. Зацярпелі мы, а найбольш то маці, ёй было найцяжэй.

**Запісаў Алег Латышонак**



*Настаўніцкія курсы ў Вільні. Вера Матэйчук ляжыць другая справа ў першым радзе. На адваротным баку здымка надпіс: „Вільня 2.9.1919. Астрабрамска № 9".*

# Горад на памежжы

**Размова з Багданам Разальскім, консулам Рэспублікі Польшча ў Гродне.**

— На Гродзеншчыне жыве каля трохсот тысяч грамадзян Беларусі польскага паходжання. Ці палякі ў Беларусі прабуюць захаваць сваю нацыянальную тоеснасць?

— Тут палякі і беларусы жывуць пры адной вуліцы, у адной вёсцы. Гэты рэгіён заўсёды быў вымешаны і ніколі не вынікалі з гэтага большыя канфлікты. Сёння таксама няма ніводнай праблемы, якая б раздзяляла гэтае насельніцтва. У самім Гродне кожны чацвёрты жыхар — паляк, аднак не ўсе гавораць на чыстай польскай мове. На Гродзеншчыне існуюць дзве польскія арганізацыі: Саюз палякаў і Польская школьныя маці. Апошняя, нядаўна заснаваная, займаецца адукацыяй галоўным чынам моладзі. Цяпер курсы польскай мовы наведвае 400 чалавек.

— Як беларускія ўлады адносяцца да польскай меншасці?

— Беларусы ўжо даўно прывыклі да сітуацыі, якая існуе тут на памежжы. Мясцовыя ўлады задаволены супрацоўніцтвам з польскім асяроддзем.

— Ці сітуацыя не пагоршылася, калі да ўлады прыйшоў прэзідэнт Лукашэнка?

— Такой змены мы не заўважылі.

— У польскіх і многіх замежных сродках масавай інфармацыі цяперашнюю сітуацыю ў Беларусі параўноўваюць з польскім ваенным становішчам. Колькі ў гэтым праўды?

— Гэта перабольшанае параўнанне. Людзі нармальна працуюць, вучацца. Нічога таксама не змянілася пасля апошняга парламенцкага крызісу.

— У такім выпадку беларуская апазіцыя зусім не існуе, а ўсе дэманстрацыі з'яўляюцца выдумкай замежных журналістаў?

— Размаўляем у Гродне і гавару пра сітуацыю ў гэтым горадзе і рэгіёне. Цэнтр улады з прэзідэнтам і ўрадам знаходзіцца ў Менску і там адбываюцца найважнейшыя падзеі. Гродна — гэта памежны горад і палітыка далёка адгэтуль.

— У Гродне Вы ўжо два гады. Раней былі Вы на пасадзе ў Калінінградзе. Ці гэтыя гарады падобныя на сябе?

— Гэта розныя гарады. Калінінград з'яўляецца портам і вялікім камунікацыйным вузлом і таму дынамічна развіваецца. Гродна такіх варункаў не мае. Працуюць тут некалькі прамысловых прадпрыемстваў, якія змагаюцца з праблемамі, вынікаючымі з агульнай сітуацыі ў Беларусі.

— Дзякую за размову.

**Гутарыў Андрэй Гаўрылюк**

# Што далей?

[1 ☞ працяг]

і супрацоўніцтва са школамі — праявы нармальнага беларускага жыцця для вучняў пачатковых школ.

*— Якія галоўныя мэты павінен паставіць сабе цяпер Беларускі саюз?*

— Трэба будзе давесці да канца справу стварэння асобнай беларускай рэдакцыі ў беластоцкім тэлебачанні. Мы мусім знайсці сваё пастаяннае месца ў жыцці нашае грамадскасці. Павінна яно выцякаць, з аднаго боку, з традыцыі, а з другога — улічваць найважнейшыя тэндэнцыі ў сучасным жыцці. Памятайма, што праз год адбудуцца самаўрадавыя выбары. Падрыхтоўка да іх, зразуменне гмінай праблематыкі, супрацоўніцтва з самаўрадамі, гэта павінны быць прыярытэтныя галіны нашай дзейнасці. Гміны, гэта тое месца, дзе можа арганізавацца беларускае жыццё ва ўсялякіх дзялянках: школьніцтва, мясцовая прэса (добры прыклад „Гарадоцкіх навін"), усякага роду мерапрыемствы. Цяпер гміны, фактычна, фінансуюць беларускія фэсты і ўтрымліваюць народныя калектывы.

*— А сёлетнія парламенцкія выбары?*

— Без палітычнага забеспячэння ў Варшаве не вырашым нашых жыццёвых праблем на Беласточчыне. Гэта натуральна. Таму за свайго пасла ў Сейм змагаемся мы ад 1989 года. Да гэтай пары, на жаль, безвынікова.

*— Ці сёлета маем нейкі шанц парваць з гэтай некарыснай нам традыцыяй і выйсці пераможцамі на выбарах?*

— Яшчэ ў мінулым годзе пачалі мы разглядаць магчымасць дабівацца свайго пасла са спіска партыі, якая мела значыць у маштабе краіны. Вялі мы перамовы з рознымі сіламі, галоўным чынам, з цэнтра і правага боку палітычнай сцэны. На сёння так атрымалася, што найбольш канкрэтную прапанову склала нам Унія працы. Пра ўсё вырашыць з'езд.

*— Ці вы будзеце кандыдатам у Сейм?*

— Сёння яшчэ зарана адказваць на гэтае пытанне.

*— А будзеце зноў ставіць сваю кандыдатуру на старшыню Беларускага саюза?*

— Калі з'езд адобрыць тое, што было зроблена Беларускім саюзам за два апошнія гады — так.

*— Дзякуй за размову.*

**Інтэрв'ю ўзяў Мікола Ваўранюк**

# Як нас бачаць

[1 ☞ працяг]

турным маналітам, а наша адметнасць заключаецца ў тым, што ходзім у царкву, не паважаем Маці Божай і папы рымскага, сумуем па камунізме і ў кожных выбарах галасуем на „камуністаў". На штодзень асабліва не перашкаджаем, але нас тут проста не відаць. Часам толькі прэса інфармуе, што адбыўся нейкі беларускі фэст ці фестываль, а нашымі народнымі песнямі захапляўся сам міністр, а бывае што нават і прэм'ер-міністр. Палякі нешта чулі таксама пра падзелы ў беларускім асяроддзі, але іх сутнасці і прычын ніхто з іх і так не разумее. Год таму адзін з тутэйшых палітыкаў нават павіншаваў нас з нагоды ўзнагароджання медалямі, прызнанымі прэзідэнтам Лукашэнкам. Нешта прачытаў ён у прэсе пра юбілей БГКТ і „Нівы" і нейкія медалі ад прэзідэнта Беларусі, якія ўручаліся беларускім дзеячам, і палічыў тады, што з гэтай прычыны ўсе тутэйшыя беларусы расплываюцца ад шчасця. Не выпадала ў такой сітуацыі не падзякаваць за віншаванні, і павіншаваць другі бок са знакамітай арыентаванасцю ў справах беларускага асяроддзя Беласточчыны.

Апошнім часам некаторыя польскія інтэлектуалы задумваюцца над тым, каб на Беласточчыне стварыць г.зв. беларускі П'емонт, які мог бы быць прыкладам для беларусаў з суседняй Рэспублікі як шанаваць сваю нацыянальнасць, мову, культуру. Зразумела, што такія праекты могуць нараджацца далёка ад Беластока, у галовах усялякіх летуценнікаў. Справа беларускіх праграм у Беластоцкім асяродку тэлебачання — гэта найлепшы прыклад таго, як такія праблемы вырашаюцца на практыцы. Тутэйшыя „крэсавякі" ў справе гэтых праграм, парушаючы краёвае і міждзяржаўнае заканадаўства, рашуча сказалі „нет", а ў дадатак паказалі яшчэ „нашых хлопцаў" задаволеных такім вырашэннем.

А з другога боку, ці можна ў якасці прыкладу паказаць нашым суродзічам з Беларусі грамадскую псіхалогію з дамінуючым у ёй менталітэтам „нашага хлопца"? Там жа ўсё падобнае, а нават аднолькавае.

**Яўген Міранові́ч**

БЕЛАВЕЖА
СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ
№ 446
Рэдактар: Сакрат Яновіч

**Да добрай традыцыі Літаратурнай старонкі „Белавежа" належыць публікаванне час-часом падборак беларускіх перакладаў твораў пісьменнікаў сумежных літаратур.**

**Гэты нумар Старонкі цалкам прысвечаны перакладам Яна Чыквіна вершаў польскіх паэтаў.**

Часлаў Мілаш

## Не болей

Я павінен калісьці сказаць, як змяніў я
Думку аб паэзіі і як гэта сталася,
Што цяпер лічу сябе адным з шматлікіх
Скупшчыкаў і рамеснікаў Царства Японіі,
Якія складаюць вершы пра цвіценне вішань,
Пра поўню месяца і хрызантэмы.

Калі б я мог венецыянскіх куртызанак
Апісаць, як на двары яны дражняць паўліна,
І з жамчужнай павязкі, з ядвабнай тканіны
Вылавіць поўныя грудзі, чырванаватую
Паласу на жываце ад зашпільвання сукенкі,
Хоць так, як бачыў шкіпер галеонаў,
Што раніцай той прыплылі з залатым ладункам;
І каб жа адначасна мог я бедныя іх косці
На могілках, дзе браму ліжа ўскормленае мора,
Змясціць у слове больш трывалым чымся нейкі грэбень,
Што, парахнеючы ў труне, адзін, сам святла чакае.

Не усумніўся б я тады. А з непадатлівай матэрыі
Што нам дасца ўхапіць? Нічога, прыгажосць — не болей.
Таму і задаволіць мусяць нас вішань кветкі
І хрызантэмы, і месячная поўня.

## Ты, хто пакрыўдзіў

Ты, хто пакрыўдзіў проста чалавека,
На смех падняўшы ягоную крыўду,
Маючы блазнаў чародку пад бокам
Дзеля мяшання дабра і ліхога,

Хоць бы табе ўсе прысвяцілі паклоны,
Цноту і мудрасць табе аддаючы,
Золатам ўсіх медалёў абсыпаючы гонар,
Рады, што шчэ адзін дзень ім жыцця дараваны,

Чуй небяспеку. Паэт памятае!
Забіць яго можаш — народзіцца новы.
Будуць запісаны ўчынкі ўсе й размовы.

Лепшы табе быў бы золак зімовы
І сук, і шнурок пад цяжарам напяты.

## Павінен, не павінен

Чалавек не павінен улюблёна глядзець на месяц.
Сякера ў ягоных руках не можа траціць цяжару.
Ягоныя сады павінны пахнуць гнілымі яблыкамі
І зарастаць у меру крапівой.
Чалавек, гаворачы, не павінен спатрабляць слоў
для яго найдарагіх,
Ні расколваць зерне, каб даведацца што ў сярэдзіне.
Ні кідаць крошкі хлеба, ні пляваць на агонь
(Так ва ўсякім разе вучылі мяне ў Літве).
Калі ж узыходзіць на мармуровыя сходы
Хам, няхай стараецца ботам пакінуць драпіну
Дзеля напаміну, што сходы гэтыя доўжыцца не будуць.

## Асот, крапіва

*(...) le chardon et la haute*
*Ortie et l'ennemie d'enfance belladona*
O. Milosz

Асот, крапіва, чартапалох і беладонна
Маюць будучыню. Ім належыць пустэча
І паржавелая чыгунка, неба і ціша.

Кім буду для людзей далёкіх пакаленняў,
Калі пасля гаманы языкоў узнагароду атрымае ціша?

Меў мяне збавіць талент складання слоў,
Аднак мушу быць падрыхтаваны да зямлі
без-граматычнай.

З асотам, крапівой, чартапалохам і беладоннай,
Над якімі ветрык, соннае воблака і ціша.

Ян Лехань

## Сустрэча

Сёння ноччу самотнай, у найшоўшым бяссонні,
З месячных промняў, нейкім дзіўным натхненнем,
Сам не ведаю як, я раптоўна ачнуўся ў Равэне
І з даўно нецярпліва чаканай сустрэўся персонай.

Праз вакно нехта ціха іграў, адчыніўшы, на флейце
І вецер злягчэлы водар прыносіў душліва-чароўны.
Я йшоў у яго, ублытаны, як у містычным букеце
Пад купалам неба іскрыстым ночы сузорнай.

„Над тужлівымі бог улітуецца — тымі, хто просіць!"
Як закляты Усявышнім, я прымружыў павекі —
І толькі рэчкі пачуўся мне дзіўны водгалас нейкі,
А потым, а потым я Дантэ згледзеў на мосце.

„Ты, гэта ж ты, мой настаўнік! Чаму такі бледны
І чаму неспакой цябе дзіўны агнём пажырае?
Я прыходжу ўпрасіць, каб раскрыў ты сакрэт свайго твару.
Я нічога не знаю. Зблудзіў. Дай сваё настаўленне".

Ён так мовіў ці, можа, вада, ці мовіла поўня?
Я упаў, галаву засланіўшы, каб шыта было і крыта:
„Няма неба й зямлі, няма пекла й прадоння,
Толькі ёсць Бэатрычэ. І няма яе менавіта".

Казімір Вяжынскі

## Жанчыны, якія ткуць

Кампілі намаляваў
чатырох жанчын,
Чатырох спакойных,
задуманых жанчын,
Якія сядзяць і ткуць,
Ткуць і глядзяць,
Глядзяць і бачаць
Штось вельмі далёка
За вобразам, за рамаю,
У дванаццатым, трынаццатым
стагоддзі,
У забытых, старых
жывапісцаў,
Якія памерлі даўно і ляжаць
На пакрышаных цвінтарах,
Ляжаць і глядзяць,
Глядзяць і бачаць
Штось вельмі далёка
У роспачным дваццатым
стагоддзі,
У парыжскай працоўні
Кампілі,
Дзе чатыры размалёваныя
жанчыны
Сядзяць у задуме за рамай,
Сядзяць і ткуць,
Ткуць і глядзяць,
Глядзяць і бачаць
Тое самае.

## Мілаванне

Як да таго я прывыкну,
Што лёсам наканавана,
Як цябе агарну й пранікну,
Маё ты каханне.

Якое сарву табе лісце,
Якім асыплю букіннем,
Што на тваё, дарагая,
прыйсце
Я адказаць павінен?

Як аддамся табе я цэлы,
Што з сябе ўсяго даверу?
Ў маім шчасці і страху
нясмелым
Даўно да цябе я належу.

І толькі прывыкнуць не ўмею,
Баюся шчэ толькі дазвання —
Як цябе абыму й зразумею,
Маё ты каханне.

Ева Ліпска

## Да Марыянны Бютрых

Амаль год намагаюся
напісаць табе ліст.

Але
саранча маіх думак —
неперакладальная.

Неперакладальныя вартавыя,
што сцерагуць мае словы
і граматыку.

Неперакладальныя мае
гадзіны
на твае гадзіны.

Чорны бэз за вакном.
Расхрыстаныя брамы.
Зжаўцелыя акуркі дня.
Мёртвае вока ў турэмным
вавчку,
над раніцай а шостай.

Неперакладальны Рыльке
Die Blätter fallen, fallen...
Wir alle fallen...

Колькі трэба было б табе
сказаць,
але
тунель наязджае
на мой спознены цягнік.

Чуецца працяглы свіст.

Я змучаная, Марыянна,
выязджаю адпачыць
у бермудскі трохкутнік.

Павел Гайнтш

## прысвячэнне ў старым стылі

знаць ніколі не сысціся
нашым лёсам
побач лёсу іншы лёс патупае
сваёй дарогай
а як зблізіцца каторы
нешта спудзіць
хоць успыхне
нехта здзьмухне полымя жывое

дык злавіць паштовага
голуба я мушу
і яму на кольцы
запіс часу перадам
адляціць і наша з ім імгненне
схопленае далю
каб маглі калісь успомніць
у лепшым іншым свеце
нашы чалавечыя два твары

Ян Леанчук

## * * *

за пагоркам
на раздарожжы
маці лічыць пяску зерне

сон змарыў усіх наўкола
сон памерлых
вёска змоўкла моўкным рэхам

толькі маці
на раздарожжы
называе кожную пясчынку

а на каменю
дрэмле бацька
час ягоны не мінае

час падводзіць
свой рахунак
бацька з маці на малітве

Аліцыя Патэй-Грабоўска

## Ад злога

Святы пакутнік
адвярні ад злога
Пакутніца святая
адвярні ад злога

Пад аховай сціплых веяў
пад скляпеннем рук застылых

Адвярні ад злога
дабрыні анёл
адвярні ад злога
атулі крылом
усе святыя ад злога
ад злога невядомага
засланіце

Мая віна Магдаліна
ніцма на падлозе

Мая віна Бессаромніца
у гоман птушак цягне рукі

Мая віна Нібыта выклік
апала долу ружа вуснаў

Ад злога адвярні ад злога
гарыць цела як грамніца
гарыць вочы непрыкрыта
гарыць ногі жарсным бляскам
трымклівыя гарыць далоні

Святы пакутнік адвярні ад злога
Адвярні ад злога пакутніца святая
пад апекай захавайце

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Юзэфа Драздоўская

## Калыханка

За шыбай месячыка рог,
у хмарах кот танцуе.
Калі ты спаць не будзеш мог,
я сон табе дарую.

Ад месяца вазьму я ніць,
ад зорачак іголку
і плашч табе змагу пашыць
прыгожы як вясёлка.

Жадаю многа сонных мар,
заснуць спакойна трэба.
Табе злаўлю ката я з хмар
і зорку здыму з неба.

*Пераклаў Віктар Швед*



*Наталля Бабулевіч з II „а" класа ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім ужо пасля свайго выступлення.* Фота Аліны ВАЎРАНЮК

# Як звяры вясну шукалі

Ішоў месяц сакавік. Як па календары — гэта месяц вясны. Але снег усё неяк не раставаў. Усё падаў і падаў.

Прачнуўся мядзведзік і выйшаў з хаты. Глядзіць, не кветкі расцвітаюць, а снег, як летам дождж, сняжынкі сыплюцца.

„Напэўна, яшчэ зіма", — падумаў ён. Пайшоў у сваю хату, на каляндар глядзіць, а там абазначана: вясна на дворы. Выйшаў на двор і давай гукаць: „Вясна, дзе ты?" Ды так гучна, што аж рэха па лесе пайшло. Не адгукнулася вясна. Тады мядзведзік добра падумаў-падумаў і пайшоў вясну шукаць. Ідзе і чуе — аднекуль спявае нябачны голас:

*— Вой, мядзведзік, ты*
*Вясну не шукай,*
*Вой, мядзведзік, ты*
*Вясну не гукай.*
*Лепш сяброў пашукай,*
*Навіну ім перадай:*
*Вясну схапіла Зіма,*
*Ёй разгону няма.*
*Не пускае Зіма вясну*
*На волю,*
*Не будзе, можа, ёй, Зіме,*
*Канца ніколі.*

І раптам загула мяцеліца. І голас перастаў спяваць. Хоць яму было вельмі холадна, мядзведзік рашыў пайсці шукаць Вясну, а па дарозе сустрэць сяброў. Ідзе ён па лесе, прыслухоўваецца да ўсяго, а лесу-гушчару ўсё канца няма. Раптам чуе: штосьці ў кустах зашамацела. І выскачыў з кусціка беленькі перапалоханы зайчык. Горка плача і прымаўляе:

*— Вясна, куды ты прапала?*
*Лепш бы ты зіму гэтую прагнала.*
*Няма чаго есці,*
*Няма дзе і сесці.*
*Вясна, прыйдзі,*
*Ручайком зазвані,*
*Зіму гэтую прагані!*

Падыходзіць да зайчыка мядзведзік ды гаворыць:

— Вясна не прыйдзе да нас, калі ты мне не дапаможаш.

— Чаму? — пытае зайчык.

— Бо Вясну схапіла Зіма. Ты згодны са мною, пойдзеш ці не?

— Я згодны, пайшлі.

Ідуць яны па лесе, а снег пад нагамі ўсё рыпіць, рыпіць. Ішлі яны, ішлі, пакуль лес не скончыўся. Бачаць, ім насустрач бяжыць ліска.

— Куды гэта вы разагналіся? Зіма ж на двары, — крутнула рыжым хвастом ліска.

— Мы ідзём шукаць Вясну, бо яе схапіла Зіма, — адказваюць мядзведзік і зайчык.

— А можна, я таксама з вамі пайду? — пытае ліска.

— Канешне, — адказаў зайчык.

Ідуць яны ўтраіх, і выйшлі на ледзяную паляну. Бачаць — стаіць палац. Адразу здагадаліся — тут жыве Зіма.

— Яна так проста нас не пусціць, — кажа ліска.

— Што ж рабіць? — пытае зайчык.

— Я ведаю, як знайсці Вясну. Трэба пайсці да Сонейка, — параіў мядзведзік. — Яно заўсёды такое ласкавае і лагоднае.

Прыйшлі сябры да Сонейка, а яно спіць. Давай будзіць яго.

А Сонейка ўстае, пазяхае:

— Хто гэта мяне разбудзіў? Няўжо Вясна прыйшла?

— Не, Вясну схапіла Зіма. Мы прыйшлі да цябе, каб ты дапамагло вызваліць яе з палону, — адказалі сябры.

— Добра, ідзіце на зямлю. Я скора буду, — заўсміхалася Сонейка.

Сышлі яны на зямлю, бачаць: Сонейка выглянула з-за хмар. Такое прыгожае, ласкавае, цёплае. Убачыла Зіма Сонейка ды наўцёкі. Кінулася куды вочы глядзяць. Вызвалілася Вясна, заспявала ў аддзяку, ды так прыгожа:

*— Я да вас прыйшла —*
*Гляньце, і пралеска зацвіла.*
*Птушачкі, прылятайце,*
*Вясёлыя песенькі спявайце!*
*Распускайся, лісцейка зялёнае,*
*І глядзі на неба сіняе.*
*Падымайся, мядзведзь, з бярлогі,*
*Зіма лютая, уцякай з дарогі!*
*Хай будзе вам усё цяплей,*
*Святлей, сіней і весялей!*
*Дзень добры, птушак галасы,*
*Лугі, палеткі і лясы!*

— Дзякуй вам, вялікі вам дзякуй, сябры! — сказала Вясна звярам.

Многа добрых спраў зрабілі сябрызвяры. І заўсёды дапамагалі ўсім, хто ў бядзе.

**Наташа Шукаловіч, 6 клас**
*(Са зборніка „Казкі дзяцей Беларусі")*



*„Ужо чакаюць вясну".* Малюнак Мартыны ЛЕАНЕЎСКАЙ, І кл. ПШ у Нараўцы.

# Адмірае беларускае сялянства

Белавежская пушча — распалажаная ва ўсходняй частцы Польшчы і на захадзе Беларусі. VI Сустрэчы „Зоркі" адбыліся ў Старыне — вёсцы ў Белавежскай пушчы. Зацікавіла мяне гісторыя вёскі, якая ляжыць непадалёк Старыны, а менавіта Доўгага Броду.

Калі хочам даведацца ад кагосьці аб мінулым, трэба папытацца старога чалавека. Так і мы зрабілі. У Доўгім Бродзе мы сустрэлі васьмідзесяцігадовага Цімафея Бялевіча. Паводле яго расказу Доўгі Брод — гэта колішнія Мацкевічы.

На гэтай тэрыторыі ў час І сусветнай вайны, калі немцы атакавалі Расійскую імперыю, салдаты перасялялі людзей у лагеры. Гэта была тактыка царскага ўрада.

Пасля І сусветнай вайны ў пушчы каля Доўгага Броду жылі партызаны. Праўдападобна гэтым людзям памагала Літва. Прыходзілі яны ў Доўгі Брод, каб узяць ежу і ваду. Чалавека, які ім працістаўляўся, расстралялі. Пазней гэтых партызан злавілі і пакаралі. Гавораць людзі, што партызаны хацелі свабоднай Беларусі.

Пасля ІІ сусветнай вайны ў гэтай вёсцы хацелі зрабіць калгас, але людзі не згаджаліся на гэта.

Цяпер Доўгі Брод апусцеў. Тут жывуць старыя людзі. „Той ужо даходзіць, той дайшоў", — сказаў нам спадар Цімафей. Магазіна тут няма, прыязджае аўтакрама. Нават солтыс ёсць у суседняй вёсцы, Забагонні. Гэта сведчыць, што сялянства адмірае. Дзеецца так не толькі ў Доўгім Бродзе, але і ў большасці вёсак вакол Белавежскай пушчы.

**Міхась Сцепанюк**
**вуч. VI класа ПШ № 3**
**у Бельску-Падляшскім**
*(Рэпартаж узнік пасля VI Сустрэч „Зоркі")*

# Пішуць школьнікі

**Прывітанне Зорка!**

Табе, „Зорка", пішу я першы раз. Мяне завуць Крысціна Буйнюк. Хаджу я ў ІІІ клас Пачатковай школы ў Малінніках. У гэтым годзе дайшлі вучні са школы ў Круглым. Амаль усе вучні нашай школы вывучаюць беларускую мову. У нашым класе 14 вучняў, а толькі 3 вучняў не вывучаюць беларускай мовы. Урокі беларускай мовы вядзе Марыя Саевіч. На ўроках чытаем казкі, вершы і апавяданні, а таксама „Зорку".

**Ад рэдакцыі:** Дарагая Крысціна! „Зорка" рэдка атрымоўвае лісты ад трэцякласнікаў. А ты — малайчына! Не толькі ўмееш напісаць сама пісьмо, але і ведаеш, што трэба хадзіць на беларускую мову.

З найлепшымі прывітаннямі!

Зорка

# Многае тут адмянілася

Пачатковая школа ў Новым Корніне знаходзіцца непадалёк вёскі. Нядаўна пралажылі туды асфальтавую дарогу. І сам будынак памаладзеў, бо ашалявалі яго ясным *сайдынгам*.

У школе таксама многа добрых навін. Па-першае — павялічыўся ўдвая лік школьнікаў. Сюды далучылі вучняў са школы ў Новым Беразове. Цяпер аж з дзевяці вёсак прыязджаюць дзеткі ў Новы Корнін. Нават з такіх далёкіх мясцін як Хітра, Барок ці Дубічы-Асочныя. Зараз у Новым Корніне 78 вучняў. З пачаткам новага навучальнага года дайшлі толькі старэйшыя школьнікі. Наймалодшыя дзеткі ад нулявога па трэці клас асталіся ў Новым Беразове.

— Ад сакавіка наладзім абеды, — кажа дырэктар школы Іаанна Алексяюк. — Яны найбольш патрэбныя дзецям з далейшых вёсак, што чакаюць аўтобуса. І школьная святліца ўзбагацілася новымі прыладамі для гульняў, новым абсталяваннем. Таксама і гімнастычная зала адмянілася, — кажа пані дырэктар.

Зараз намнога больш прылад для заняткаў па фізкультуры. У школе таксама новыя прыбіральні ў будынку. Школьнікаў давозіць гайнаўскі гарадскі аўтобус.

Дзякуючы такой развязцы і дзеці з Чыжыкаў маюць бясплатны даезд у школу. У Новым Корніне не толькі ўдвая павялічылася колькасць вучняў, але і ў такіх прапорцыях узрасла колькасць чытачоў „Зоркі". Беларускую мову выкладае тут спадарыня Ніна Куптэль. Настаўніца пазнаёміла мяне з вучнямі III і IV класаў. Пазней мы завіталі да пяцікласнікаў. Гэта яны рыхтавалі на навагоднюю ёлку беларускую п'есу „Гэй, сняжыначкі, ляціце". Галоўную ролю іграла таленавітая прыгажуня Аня Крук. Усе пяцікласнікі вельмі заангажаваліся ў навагоднюю пастаноўку. Нездарма пазней доўга захапляліся імі бацькі і школьныя сябры.

— Бацькі вельмі хвалілі п'есы на беларускай мове, — кажа спадарыня Ніна Куптэль. — І асабліва тыя, якіх раней дзеткі вучыліся ў Новым Беразове.

— Тут вельмі добрая атмасфера для роднай мовы, — кажуць настаўнікі. — Здараецца, што і бацькі клапацяцца пра гэта. Прыходзяць у школу і з настаўнікамі па-свойму размаўляюць.



*V клас ПШ у Новым Корніне.*

Карыстаючыся гасцінным прыёмам у Новым Корніне, я яшчэ завітала ў VIII і II класы. Другакласнікі, у адрозненні ад сваіх старэйшых сяброў, былі адважныя і гаваркія. Іх настаўніца Іаланта Грыгарук прадставіла мне дзетак, якія на навагоднім ёлцы дэкламавалі беларускія вершы. Івонка Крук і Гося Нічыпарук і для мяне прыпомнілі свае цудоўныя вершыкі. Дзеткі сказалі, што і яны будуць пастаяннымі чытачамі „Зоркі". Але пакуль мусяць добра вывучыць родную мову.

На канец варта згадаць і ўдзельнікаў Сустрэч „Зоркі". З Новага Корніна заўсёды прыязджалі да нас цікавыя і таленавітыя вучні. Згадайма хаця б Аню Тэслюк, аўтарку чароўных апавяданняў „Родная мова" ці „Каляровыя алоўкі".

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*



*Гося Нічыпарук і Івона Крук.*



*Настаўнікі ПШ у Новым Корніне.*

# Кубак бурмістра

26 лютага ў Чорнай-Беластоцкай адбыўся танцавальны турнір на кубак бурмістра гэтага горада. У змаганні ўзялі ўдзел пары з трох ваяводстваў: Беластоцкага, Сувальскага і Ломжынскага.

У нашай катэгорыі (12—13 гадоў) стартавала 18 пар. Як нам з Якубам хацелася здабыць кубак! У мінулым годзе мы на такім жа турніры ў Чорнай-Беластоцкай амаль падышлі да яго, хаця ў нашай групе выступала аж 60 пар. На жаль, не хапіла ўсяго аднаго пункта, і мы занялі толькі другое месца. Першае месца заняла пара з Астралэнкі, яна і атрымала кубак бурмістра Чорнай-Беластоцкай. Ну, але тады мы маглі гэта дараваць сабе, бо выступалі з Якубам упершыню (дагэтуль мы танцавалі з іншымі партнёрамі).

Цяпер, пасля паўтарагадовых трэніровак па пяць разоў у тыдзень і 16 турніраў у розных гарадах нашай краіны, дзе мы займалі добрыя месцы, мы адчувалі сябе больш упэўнена. Аднак жа ўсё роўна хваляваліся. Бо поспех тут залежыць не толькі ад тэхнічнага майстэрства, але і ад настрою, ад таго, як ты выйшаў на паркет — ці з мінай пераможцы, трымаючы высока галаву, ці з мінай праіграўшага. Ужо чатыры гады мы вучымся танцаваць, і амаль на кожных занятках наш трэнер напамінае нам аб гэтым. Таварыскі, бальны танец — зусім нялёгкі від спорту. Ужо будзе ён уваходзіць у склад спартыўных дысцыплін на наступнай Алімпіядзе.

На гэты раз нам пашанцавала. Менавіта наша пара заняла першае месца і атрымала кубак бурмістра Чорнай-Беластоцкай. Таксама нам, як адзінай пары, далі клас „D". Вялікая гэта радасць, калі цябе ацаняюць высока. Шкада толькі, што нам, дванаццацігодкам, далі ў якасці кубкаў па белым слану. А мне так хацелася атрымаць вазачку, якія давалі старэйшым парам. Я меркавала, што падару яе маме. Але няхай сабе будзе і слон. Сланы, кажуць, прыносяць шчасце.

**Адрыяна Семянюк,**
**вучаніца 6 класа, ПШ № 9**
**у Беластоку**

# Польска-беларуская крыжаванка № 9

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Nagroda | Szata liturgiczna | Zamek | | Bekas | | Ikra | | |
| Przylaszczka | | | | | | | | |
| Rzym | | | | Rok na uczelni | | | | |
| | | | | Oman | | | | |
| Morda<br>Zakwas | | | | | | Smutek | Sosna | |

**Адказ на крыжаванкі н-р 5:**

**Польска-беларуская крыжаванка:** зад, рух, каша, нага, чарада, душ, хада

**Магічная крыжаванка:** шар, аса, рак

**Узнагароды выйгралі:**

**— каляровыя фарбы: Мажэна Пасечнік** з Беластока, **Паўліна Савіцкая** з Гарадка, **Марта Тапалеўская** з Кленік, **Анджэліка Сельвясюк** з Бельска-Падляшскага.

**— шматкаляровы аловак: Цаліна Глагоўская** з Гданьска, **Пятрусь Янкоўскі** з Бельска-Падляшскага, **Тамаш Саковіч** з Гарадка, **Андрэй Крук** з Катоўкі, **Марыля Тапалеўская** з Кленік.

Віншуем!

Узнагароды можна атрымаць у рэдакцыі „Нівы", або чакаць іх у сваёй школе.



Талон „Зоркі" № 9
02.03.1997

# Бяссонныя ночы

**Янку Жамойціну, беларускаму дзеячу і пісьменніку споўнілася семдзесят пяць гадоў жыцця. Віншуючы Юбіляра з так знакамітай гадавінай, звярнуліся мы да яго з просьбаю аб інтэрв'ю.**

***— Чытаючы Вашы ўспаміны, апошнім часам у кніжцы „Лёс аднаго пакалення", чамусьці неадчэпна думаецца, што ў жыцці кожнага чалавека вылучаецца нешта адно — здарэнне? факт? — з якім ён доўга ходзіць...***

— Людзі ў маіх гадах трацяць нямала часу ў бяссоныя ночы на рэфлексіі, на разважанні, якія міжвольна навязваюцца, не выключаючы здарэнняў выпадковых, што не мелі грунтоўнага значэння ў жыцці. Такія прыжываюцца ў роздумах, як і іншыя. У маім, аднак, выпадку адносна хутка чэзнуць — знікаюць, пераважна беспаваротна.

Іншая справа з разважаннямі **намеранымі**, ці, па меншай меры, свядома дапушчанымі, якія мелі большы або меншы ўплыў на маё жыццё, на яго спосабы. Я, асабіста, такіх думак не адганяю. Наадварот — стараюся даць ім магчымасць пакапацца ў памяці, ажываць, развівацца, прыклікаць у дапамогу здарэнні вытворныя. Апошнія, па чарзе разбуджаюць у памяці наступныя і, такім чынам, аднаўляецца ва ўспамінах цэлы ланцужок здарэнняў, якія складаюцца потым на праблему ці адрэзак жыцця.

***— Калісьці, не ведаючы вашых жыццёвых дарог, успрымаў я вас як літаратурнага крытыка, апісальніка творчасці некаторых аўтараў. Цяпер жа мне думаецца, што Ваша актыўнасць на літаратурным палетку была крыху субстытутам, заменнікам беларускай дзейнасці наогул, асабліва тады, калі такая дзейнасць не заўсёды ўяўляла сабою бяспечны занятак.***

— Мае спробы крытычных ацэнак літаратурнай творчасці пісьменнікаў „Белавежы" былі выкліканы перш за ўсё закаранелай цягай удзельнічаць у грамадскім жыцці беларускага асяроддзя. У не меншай меры было гэта, таксама, і нечым выпадковым. Нехта даў мне ацаніць верш адэпта беларускай паэзіі. Пасля публікацыі маіх заўвагаў студэнты падкінулі мне прапанову аналізу іншага твора. У рэшце рэшт рэдакцыя „Беларускага календара на 1982 год" запрапанавала апрацаваць публікацыю на тэму твораў аўтараў „Белавежы". Маючы на ўвазе нейкі выбух маладых талентаў я намагаўся перш за ўсё выявіць становучыя рысы іхняй паэзіі, каб заахвоціць дзеля далейшых высілкаў. Крыху больш дазваляў я сабе датычна ўжо прызнаных творцаў. Мае публікацыі таго часу на літаратурныя тэмы мелі хутчэй за ўсё характар частковага аналізу, мо рэцэнзіі, чымсьці крытыкі ў поўным сэнсе гэтага тэрміна. Зрэшты, цяжка быць сапраўдным крытыкам у сваім цесным асяроддзі.

Схільнасць аналітычна ўспрымаць літаратурныя творы, што сталася маім навыкам, вынес я з варшаўскай гімназіі трыццатых гадоў. Гэту схільнасць у мяне заўважылі тады настаўнікі, і падтрымалі.

Не памятаю, каб мой удзел у грамадскім жыцці ў Варшаве пасля свайго вяртання з савецкага лагера быў абумоўлены бояззю чарговай страты свабоды, арыштам. З прыемнасцю ўспамінаю кантакты з беларускай паступовай моладдзю, студэнцкай, магчымасці свабоднага абмену думкамі з ёю, удзел у нацыянальных мерапрыемствах, між іншым з Сакратам Яновічам...

***— Дзякую! Вяртаючыся да самое сутнасці грамадскай работы, кідаецца ў вочы тое, што няшмат людзей схіляецца да яе, больш цэнячы зацішак кватэры і мінімум турбот. Вы, аднак, да такіх не належыце, носячы ў сабе пачуццё адказнасці не толькі за самім учыненае, але і — так бы мовіць — за лёс нацыі. А гэта ўжо характэрная рыса эліты. Якая Ваша ацэнка стану эліты якраз?***

— На мой погляд, пачуццё адказнасці за грамадскія дзеянні, за лёс нацыі, з'яўляецца толькі між іншым рысай эліты, не ахоплівае яе адназначна ў поўным значэнні гэтага паняцця.

Сумленныя адносіны да грамадскіх абавязкаў далёка не характарызуюць усю эліту. Прычым неабходна адрозніваць эліту грамадскую ад інтэлектуальнай, палітычную ад навуковай ці іншай. Узор служэння, скажам, навуцы можа зусім не спраўдзіцца, нічым не апраўдацца ў грамадскай або палітычнай дзейнасці.

Насоўваецца апрача таго пытанне: у якой ступені выступае паняцце эліты — у тым першым значэнні — ва ўмовах улады суверэна, ці як хто хоча: дыктатара, якому безагаворачна падпарадкаваны ўвесь палітычнаграмадскі апарат, што выконвае яго-



ную волю? Дзе тут месца сумленнаму апартніку дыктатара? Я не бачу.

А пра канкрэтна нашу эліту тут — ва ўмовах фармавання дэмакратычнага ладу — шмат адказу знаходзім у газетных паведамленнях, між іншым і ў беластоцкіх выданнях.

У маім разуменні, станоўчай рысай эліты трэба лічыць стойкасць, паслядоўнасць у дзеянні, вернасць прынятым ідэалам. Мінусамі з'яўляюцца: няздольнасць дзеля кампрамісаў, слабасць грамадскага аўтарытэту, значная ўсёдазволенасць у асабістым плане. За прыкладамі не трэба далёка хадзіць, яны ёсць нават у спомненай кніжцы „Лёс аднаго пакалення". — Беларуская дзяячка Надзя Будзіловіч бессаромна абвінаваціла свайго дабрадзея — аўтара ўспамінаў „На жыццёвых хвалях" у няздзейсненых ім дзеяннях (стар. 203).

У артыкуле „Пакаленне, якога не стала" („Ніва" ад 3 лістапада 1996 г.), аўтар якога адрэкамендаваўся гісторыкам, у сваіх заўвагах наконт маіх успамінаў „З перажытага" м.інш. заяўляе: *Рагуля проста пакінуў сваіх хлопцаў*. Тым часам у тэксце „З перажытага", калі яго хто ўважліва чытаў, можна зрабіць адназначныя высновы. А менавіта:

— Барыс Рагуля ўчыніў усё магчымае дзеля забеспячэння навагрудскага Саюза Беларускай Моладзі ад уплываў акупанта (стар. 87, 89).

— Барыс Рагуля сарганізаваў вайсковы эскадрон мясцовага значэння выключна з добраахвотнікаў, які асцерагаў вёскі Навагрудчыны ад пацыфікацыйных дзеянняў акупанта ды абмежаваў партызанскую кантрыбуцыю (стар. 89 і 90).

— Рагуля, пасля завяршэння дзейнасці эскадрона ў сувязі з набліжэннем савецкага фронту і прытрымліваючыся прынцыпу добраахвотнасці, запрапанаваў хлопцам эвакуіравацца альбо адысці па ўласным жаданні (стар. 97).

— У адпаведнасці з вайсковымі правіламі, Рагуля назначыў камандзірам эвакуацыі падначаленага яму афіцэра (стар. 97).

— Адпаведна ранейшай дамоўленасці, сустрэўся ён у Гродне з разведкай эскадрона і абмеркаваў далейшыя магчымасці эвакуацыі (стар. 97).

Такія факты. Чаму не палічыўся з імі аўтар артыкула? Чаму пайшоў на беспадстаўнае асуджэнне Барыса Рагулі? Мне гэта незразумела.

***— Янка Жамойцін застанецца, аднак, героем мінулых часоў. Адным са стваральнікаў таго этапу ў гісторыі нацыі, у які рыхтаваўся грунт пад сучаснасць, натуральна. Давайце ўсё ж запынімся на тым, што якраз удаецца Вам рабіць у задуманым менавіта цяпер, а што не.***

— Набліжэнне канца шляху жыцця павінна абумоўліваць паводзіны чалавека. Таму мяркую, што ў наш час шматлікіх фальсіфікацыяў гісторыі трэба пакінуць запіс сваіх перажыванняў, асабістых адчуванняў і разумення тых падзей, сведкам якіх былося. Сума лёсаў адзінак складае лёс нацыі. Перш за ўсё таму я гэта вырашыў напісаць успаміны. Трохі яны ў скарочаным выглядзе, але інача́й не было магчымасці, па тэхнічна-фінансавых прычынах.

Сваёй няўдачай лічу фіяска з актывізацыяй суайчыннікаў, пражываючых у Варшаве, дзеля аднаўлення разбітага тут асяроддзя. Галоўным чынам сярод праваслаўных, хоць існуе для гэтага добры прыклад у выглядзе дзейнага ўкраінскага асяроддзя ў тых жа праваслаўных умовах.

***— Хто не верыць у вечнасць Беларусі, не будзе дастойны ласкі Божае. Беларусь на крыжы пакутаў...***

— Пакуль жыве нацыянальнае пачуццё Народа, яго культура, яму будзе спадарожнічаць змаганне за незалежнасць, што ва ўмовах еўрапейскага ладу, барацьбы за правы чалавека, мусіць дасягнуць мэту: вызваленне ад гегемоніі іншай дзяржавы.

Маючы на ўвазе геапалітычную сітуацыю, з яе заблытанасцю на Беларусі, і непрадказальнасцю падзей у ёй, нельга прадбачыць час, калі Беларусь даб'ецца свайго, сапраўднай суверэннасці. Але яна, незалежнасць, непазбежная, я ўпэўнены ў гэтым.

**Інтэрв'ю ўзяў Сакрат Яновіч**

# Генерал Андэрс на пружанскім Іардане

Жыццяпіс гэтага славутага генерала быў вельмі цікавы. Нарадзіўся ён як пратэстант, але потым перайшоў у праваслаўе. Такая была ўмова, каб паступіць у Пецярбургскі Кадэцкі корпус. Пасля I сусветнай вайны пераехаў у Польшчу і змяніў веравызнанне на рымска-каталіцкае. Пэўна ж з таго ўзялася яго сімпатыя да экуменічнага руху. Аб гэтай сімпатыі сведчыць здарэнне, у якое я б не паверыў, калі б не бачыў на свае вочы.

Дык вось у трыццатыя гады генерал меў сваю сядзібу ў Баранавічах, адкуль кіраваў вайсковай акругай. Падначаленымі яму былі між іншым два палкі, якія стаялі пад Пружанамі. Гэта былі 25 полк велькапольскіх уланаў і 20 полк лёгкай артылерыі. Уланы мелі свой духавы аркестр. Уявіце сабе белыя коні, на іх белыя чапракі з арламі, бліскучыя інструменты, а сярод іх самы вялікі гелікон, трубу, якая ўецца вакол музыканта. Калі на нацыянальныя святы адборныя атрады гэтых палкоў прыязджалі ў рымска-каталіцкі касцёл на набажэнства, а пасля дэфіліравалі, дык гукі было чуваць на некалькі кіламетраў.

І вось аднойчы падчас хрэснага ходу на захад ад Пружаны за вуліцу Хватка да крыніц рэчкі Муха (якая ў горадзе ўпадае ў рэчку Вец і адсюль плыве ўжо Мухавец) я пабачыў спераду згаданы аркестр у пешым строю (без коней). Аркестр іграў вядомы кожнаму праваслаўнаму гімн „Коль славен наш Господь в Сионе, не может изъяснить язык: Велик Он в небе сам на троне, в пылинках на земле велик...". Гэта велічны гімн, усё ж такі ён не праваслаўнага, а пратэстанцкага паходжання...

На сам абрад пасвячэння вады жаўнеры не пайшлі, усё ж такі выслухалі літургічны спеў „Глас Господен на водах вопиет глаголя: Приидите, приимите вси духа премудрости, духа разума, духа страха Божия явившегося Христа".

У II корпусе Польскіх узброеных сіл на Захадзе былі праваслаўныя капеланы, бо большасць кадраў складалі жаўнеры з „Крэсаў". Пад Монтэ-Касіна на могілках стаяць праваслаўныя крыжы. Нашы польскія святары служылі там паніхіды. Такім чынам дух Генерала (чыя магіла там знаходзіцца), які ведаў царкоўнаславянскую мову, разумеў малітвы і цешыўся з прагрэсу экуменізму ў Польшчы.

Парадаксальна, у пружанскім аркестры былі амаль выключна пазнаньчыкі. Апошнім часам у Познані створаны быў хор, які называецца „Экуменія". Такім чынам актуальнай застаецца двухтысячагадовай даўнасці рымская прыказка „Tempora mutantur, et nos mutamur in illis (Часы мяняюцца і мы мяняемся ў іх).

Я расказаў нешта дзіўнае, але яшчэ больш дзіўным было тое, што падчас пастырскага візіту біскупа Букрабы з Пінска, пружанскі рабін сустракаў яго на гарадской заставе ў аблачэнні, каб сказаць прывітальную прамову.

**Серафім Корчак-Міхалеўскі**

# Беларуская песня ў Бельску

Хаця за білет на раённы агляд Фестывалю беларускай песні ў Бельску-Падляшскім трэба было заплаціць (3 злоты, гэта нямнога, але ўсё ж), зала Бельскага дома культуры была запоўненая публікай. Сярод гледачоў былі не толькі гараджане, але і ўбачыў я знаёмых з навакольных вёсак.

Канцэрт пачаўся адразу з моцнага акцэнту, а менавіта з добра вядомага вакальна-інструментальнага гурту „Маланка". Дзве новыя песні — „Кажуць, у каханай" і „Люлечка" праспяваў увесь калектыў, а потым яшчэ дзве — галасістая салістка Святлана Кобус. „Маланка" бездыскусійна перамагла ў сваёй катэгорыі і атрымала ўзнагароду бурмістра Бельска. А Святлана Кобус узяла другое месца сярод выканаўцаў апрацаванага фальклору (першага камісія не прысудзіла) і была адзначана Галоўным праўленнем БГКТ.

Здавалася, што пасля такога ўступу цяжка будзе іншым выйсці на сцэну. Але „Красуні" з Краснага Сяла гэта спрактыкаваныя спявачкі — без хвалявання праспявалі а капэла пра мілага, які „ўмершы гуляе ў садочку" і казака, што зажурыўся. Атрымалі за гэта другое месца ў катэгорыі фальклорных калектываў і ўзнагароду ГП БГКТ. Першае месца сярод выканаўцаў аўтэнтычнага фальклору выспяваў дуэт з Дубяжына: Анна Раманюк і Вольга Кандратовіч. Узнагародзіў іх — як і ўвесь дубяжынскі калектыў „Родына", і кнарыдскія „Бярозкі" — войт Бельскай гміны.

У катэгорыі хораў не было канкурэнцыі для бельскіх „Васілёчкаў". За сваё бадзёрае выступленне атрымалі яны таксама ўзнагароду бурмістра. А войт Арлянскай гміны рашыў падтрымаць наймалодшых і адзначыў „Дзявочыя ноткі" з Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Б. Тарашкевіча.

Трэба сказаць, што незалежна ад высокага ўзроўню і цікавага рэпертуару старэйшых удзельнікаў агляду, дамінавала ў ім моладзь. Вучаніца трэцяга класа ліцэя Эмілька Астапчук (першае месца ў сучаснай песні, разам з Юстынай Пажазінскай) гэта сярод сваіх сябровак асоба з багатым эстрадным вопытам. Добра праспявалі таксама Марта Такарэўская (II месца) з песеннай студыі пры Бельскім доме культуры і Анна Рошчыц (III месца ў гэтай самай катэгорыі — сучаснай песні) — вучаніца прыватнай эстраднай школы Ядвігі Завадскай. Хацелася б толькі, каб дзяўчаты мелі лепшы рэпертуар, бо спяваныя імі песні — адназначна з г.зв. савецкай эстрады, якая не вылучалася занадта добрым густам. Можна было б таксама пажадаць ім нармальнага, жывога акампанементу, але, відаць, запраграмаваная на камп'ютэры і запісаная на плёнку музыка гэта не столькі выбар, што „з браку ляку".

Да катэгорыі маладых выканаўцаў можна таксама аднесці пару канферанс'е з беларускага ліцэя: Басю Пракапюк і Марка Рубашэўскага. Быў гэта, здаецца, іхні дэбют у такой ролі. Справіліся з ім паспяхова.

Госцем агляду быў калектыў „Клейнічанкі" з Клейнік, што на Берасцейшчыне.

**М. В.**




*Анна Раманюк і Вольга Кандратовіч з Дубяжына — I месца ў фальклорнай катэгорыі.*
Фота Сяргея Грынявіцкага

Якія мы людзі

# Сшытак

Адчыніўшы дзверы, Ганулька ўбачыла на парозе сваю аднакласніцу Лільку і вочы яе заззялі радасцю. Цешылася дзяўчынка, калі прыходзілі да яе сяброўкі, але здаралася гэта, на жаль, вельмі рэдка. Ганулька мела шмат заняткаў апрача школы, хадзіла на музыку і на англійскую мову, і цяжка было яе застаць дома. А, зрэшты, і ў хаце ёй працы не бракавала, так што на гульні часу не мела яна занадта многа.

Лілька наведала Ганульку ўпершыню і прыйшла па справе. Гэта дзяўчынка часта прапускала ўрокі, бо была слабога здароўя. Вось і на гэты раз некалькі дзён не было яе ў школе, і яна хацела пазычыць у Ганулькі сшытак па гісторыі, каб перапісаць заданне на дом.

Ай-яй-яй, але ж Ганулька і сама яшчэ не зрабіла хатняга задання на заўтра... Хочаш, я табе перапішу заданне, — запрапанавала Ганулька. Шкадавала яна сяброўку, бо тая мела слабы зрок і хадзіла ў акулярках. А што там Ганульцы перапісаць! Яна здаровая! Няхай дзяўчынка ў яе хоць крыху пагасцюе...

Калі Ганулька старанна перапісвала на лістку паперы заданне па гісторыі, яе госця ласавалася смачным пірагом з яблыкамі, якім пачаставала яе Ганульчына мама, да запівала пірог апельсінным сокам з „Гартэкса".

Ну, а пасля яшчэ і пагулялі яны ў нейкія гульні — Ганулька не ведала, як дагадзіць дзяўчынцы. Была яна вельмі шчаслівая, што крыху дапамагла сяброўцы, ды яшчэ таму, што было чым пачаставаць дзяўчынку, бо мама якраз спякла „шарлотку", быццам бы прадчувала, што ў хаце будзе госць.

Было ўжо даволі цёмна, і Ганульчын тата падвёз яе сяброўку, шасцікласніцу, дахаты.

У добрым настроі ішла Ганулька на другі дзень у школу. А што дзівіцца? Радасна на душы чалавеку, калі бачыць, што нехта горнецца да яго, а і ён не адварочваецца да яго плячыма. Ганулька была вельмі ласая на сяброўства — на гэта ўсё ж патрэбны быў вольны час, якога яна на працягу навучальнага года мела вельмі мала.

Урок гісторыі быў трэці па чарзе. Настаўнік пачаў правяраць сшыткі. Хадзіў між партамі і глядзеў. Калі дайшоў да Лількі, здзіўлена глянуў на пустое месца ў яе сшытку.

— А што я магла зрабіць, калі я не была на папярэдняй лекцыі? Ва ўсіх учора прасіла, каб пазычылі мне сшытак, але ніхто мне не даў. Да Ганулькі пасля ўрокаў дахаты званіла, ці не можа пазычыць, і то сказала, што не дасць!

Усе галовы павярнуліся ў бок Ганулькі. Клас панура загудзеў. Нават тыя, што не пазычылі свайго сшытка дзяўчынцы ў класе, выказвалі сваё абурэнне Ганульчынымі адносінамі да сяброўкі, бо яе імя было названа. Падумаць толькі, якая сяброўка! Мо такой лепш і не ведаць... І хто б такое мог пра яе сказаць.

Слёзы напылі на вочы Ганулькі. Крыўда ад такой страшнай несправядлівасці душыла яе. Яшчэ гады тры таму назад Ганулька расплакалася б на сто працэнтаў. Але цяпер вытрымала. Відаць, у яе маладзенькай яшчэ псіхіцы выспела ўжо думка, што слязьмі нічога не выйграеш. Гнеў нарастаў у яе душы, але яна маўчала. Сорамна было ёй нават прызнацца самой сабе, што яе сяброўка — такая манюка.

А тады настаўнік, дырэктар школы, сказаў: „Ну, Ганулька, дык раскажы нам, як гэта ёсць з табою!" Так і сказаў перад усім класам. Загадаў ёй, а не Лільцы за яе ману, апраўдвацца.

І ў той момант з душачкі Ганулькі вылез д'ябал. А мо і тое яшчэ ўзяло верх, што бацькі ёй паўтаралі: „Не дай па сабе ездзіць, бо сёння такі час, што з'ядуць цябе людзі, калі будзеш пакорнай!"

І той д'ябал гукнуў на ўсю моц галасам Ганулькі: „Дык што, Лілька, мо не была ты ў мяне ўчора? Не перапісала я табе гэта заданне на асобны лісток? А мо мая мама не частавала цябе „шарлоткай"? Калі хочаш, то можна ў маёй мамы цяпер запытацца, яна пасведчыць!"

Усе ў класе замерлі ад нечаканасці, а Лілька сядзела пунсовая, як півонія. Настаўнік пачаў нешта гаварыць з ёю, але Ганулька ўжо нічога не чула. Была яна ў стане шоку, бо такой подласці ад сяброўкі не чакала.

* * *

Наіўная істота, не дадумалася яна, што сяброўка прыйшла, бадай, па гатовае заданне, дзе былі б ужо не толькі пытанні, але і адказы. Ганулька разумела ўсё проста, так як ёй і гаварылі, верыла людзям. Цудоўная наіўнасць дзіцяці! Але ў яе ўзросце трэба сёння лічыць гэта, бадай, ужо вялікім няшчасцем.

А мо не толькі сёння. Мо яно і заўсёды так было... Заўсёды пра шчырых людзей казалі: наіўны, як дзіця.

**Ада Чачуга**

# Гайнаўскія рэфлексіі

Серада, 12 лютага. Хоць на календары палова зімы, надвор'е вясеннее. Сонца вышэй падымаецца, быццам у сакавіку грэе. Снег згінуў. Незадоўга аўсы сеяць будуць...

Сёння Трох Святых — Васілія, Рыгора, Іаана. Некаторыя ў вёсках святкуюць. Я таксама надумаў адпачыць. А паколькі няма чым заняцца, паехаў з прыяцелем у Гайнаўку, каб сваё справы ў раённай гэадэзіі афарміць. На гайнаўскай станцыі калегу па рабоце сустрэў. Даўно не бачыліся, таму і завязалася гаворка ў нас.

— Што новага, братуха? — пытаю сябрука. — Як там на рабоце?..

— Што ж добрага у нас можна пачуць? — пытаннем адказвае калега. — Адна бяда... Кажуць, зноў рыхтуюцца звальненні на чыгунцы. Быццам бы семдзесят тысяч.

— Каго цяпер звальняць-то будуць? — пытаю прыяцеля. — У нас, у Чаромсе, адзін рабочы на двух пасадах працуе, — кажу яму. — Пэўна і ў Гайнаўцы не інакш...

— Гэта іх не хвалюе! Самі прыватныя суполкі арганізавалі. А на чыгунцы эканоміку ўводзяць, з двух бакоў грошы грабуць, а чалавеку аднаго куска хлеба шкадуюць.

І тут мой калега такую гісторыю расказаў. Калі на станцыі ў Гайнаўцы чыгуначнікі самі прыбіралі, належны парадак быў. Пероны былі ачыстыя. Зімою пяском іх пасыпалі. А зараз дзяржаўная чыгунка з прыватнай фірмай Centrum „Usługa" дагавор заключыла. У мінулую зіму самі чыгуначнікі снег з перонаў прыбіралі, сваім транспартам яго вывозілі. А прыватная фірма за гэта дарэмныя грошы брала. Бо ў гэтай суполцы нашы начальнікі свой пай маюць. А што ў гэтым годзе робіцца? Работнікі фірмы Centrum „Usługa" пероны шлакам пасыпалі, бо не хацелася ім пяску прывезці. Снег растаў, шлак у балота замяніўся. І гэтае свінства на ботах у канторы носім. Палавікі так запэцканы, што не ведаю як іх адмыць. І вось табе эканоміка!

Аб многім мы яшчэ талкавалі з прыяцелем. А наша гаворка да аднай рэфлексіі зводзілася: не будзе парадку на чыгунцы, калі нашы начальнікі ў прыватных фірмах сядзець будуць. Яны аб „свае" справы толькі клапоцяцца, а чыгуначнае прадпрыемства як дойную кароўку выкарыстоўваюць.

Развітаўшыся з сябруком, паехаў я ў горад, каб нешта цікавае прыкмеціць. На гайнаўскім рынку людзей тлум вялікі. Кожны ходзіць паміж прыватнымі ларкамі, цэнамі цікавіцца, але тавар не купляе. Відна і тут дзейнічае эканоміка. Адно пэўнае, прадаўцоў больш чым пакупнікоў.

**Уладзімір Сідарук**

# Сабачы лёс

**_Белы сабака прынёс паесці чорнаму сабаку, які так аслаб, што зусім не мог рухацца. „Дзякуй табе, белы сабака, што ты мне дапамог, хоць я — чорны", — сказаў чорны сабака. — „Ды ж гэта толькі сярод людзей існуе звычай адрозніваць чорных сабак ад белых і сеяць між імі нязгоду. А нам, сабакам, не трэба браць дурны прыклад і пачынаць спор з прычыны нашага колеру". Так кажацца ў персідскім анекдоце._**

Сабаку многа не трэба, каб жыць. Ніхто ж яго не пытаў, ці трэба яму было нарадзіцца. Ці ў пародзістай сытай дарагой сучкі і бацькі-чэмпіёна, ці ў валацужных цюцькаў, абросных брудам і блохамі, ці ў старой вясковай будцы на свет ён прасіўся. Часам, пакуль расплюшчыць вочы, захлынецца вадою ці пяском, і не дыхне. Бо

**сабак замнога**

на свеце. Пра людзей рэдка хто скажа: вось іх ужо замнога на Зямлі, давай іх патопім ці жыўём закапаем, напусцім адных на адных — няхай пазагрызаюцца. Такая прапанова можа выйсці аднейкага ненармальнага кіраўніка дзяржавы ці яго садысцкіх дарадцаў-дэгенератаў, якім марыцца ўлада над светам. Ёсць такія, што ідэалогію смерці ўмеюць апраўдваць, іншыя забіваюць з папяросай у зубах, не дапускаючы ніякай думкі ў сваю галаву. Нават загадаў ім не трэба.

**У вёсцы N.**

вялікай, досыць заможнай, спачатку не лічылі сабак, пакуль не трэба было за лішняга плаціць падатак. Паколькі гэтая вёска ляжыць на ўскраіне пушчы, большасць гаспадароў не клапоціцца ім даваць ежу: лепш укарміць парсюка і яго з'есці ці прадаць, чым даваць жэрці сабаку. Лепш спусціць яго з ланцуга на волю, хай сабе сам ловіць спажыву. Сям'я К. з суседняй вёскі падала ў суд братоў Г. за тое, што іхнія два сабакі загрызлі ім шэсць авечак. Ніхто, аднак, не змог даказаць, ці гэта былі два шэры вялізныя дварнякі братоў Г., падобныя на ваўкоў, ці сапраўдныя ваўкі, якія ёсць пад аховай. У рэшце рэшт хтосьці застрэліў сабак, але і спадарства Г. не атрымала ніякай кампенсацыі. А за зайцамі ды большымі жыхарамі лесу не ўступіцца ніхто, тым больш што і гаспадары сабак таксама апанавалі лес (але гэта іншая тэма).

— Лепш свінні ўліць у карыта, то хоць карысць будзе, прадасі, або сала сам зжарэш, — кажа Іван Ч., гаспадар аднаго сабакі, які добра зарабляе на сябе: пільнуе гаспадаровае поле ад дзікоў, прывязаны да слупка. — Галодны лепш брэша, стараецца дагадзіць. Злосны сабака лепшы, ано трэба яго добра навучыць,

**кія не шкадаваць**

каб сваё ведаў.

Пра „панскіх" сабачак чуваць у больш багатай вёсцы Р. у Н-скай гміне. Ёсць часам Бобік на ланцугу, ёсць і Рэксік у хаце, маленькі брахун, хітрэйшы і спрытнейшы, якому перападае штo-небудзь добрае са стала, для пацехі і забавы, калі нават у хаце і дзяцей няма. Але што ж зробіш, калі і за пацеху плаціць трэба...

— І вадзіць на ўколы ад „усцяклізны". Так мо яны і не ведалі б, што ў цябе лішні сабака, — кажа Надзея К. — А не завядзі на ўкол, то невядома, што прывалачэ ён потым з лесу. Каля пушчы жывеш, розны звер каля ног бегае, халера ведае, што можа прычапіцца. Але як мае здохнуць, то няхай здыхае. Так лічаць нашы „вецінары" — захварэў наш Тур, то лекару ніяк не было па дарозе, каб яго лячыць, а пасля каб даць укол на лёгкую смерць.

— Эгэ, Янушкаў Рэкс і сам не здохне, і яму, Янушку, не дасць, — смяецца Ежы Н. — Закусь прынясе для Янушкавай кампаніі. Шкада, што самагонкі піць не ўмее, кепскі з яго таварыш. Але калі гаспадар зваліцца ў адкос, то, нябось, не пакіне яго, вартуе, як жонка, ано не сварыцца, не лае...

— Сабака

**ў гаспадарцы патрэбен**

— мяркуе Тамара Г. — І кот таксама, так заведзена хіба ад пачатку свету, каб мышэй лавіў. На мышэй лепшыя кошкі, больш спрытныя, валочаць мышэй кацянятам. І больш акуратныя, чыстыя, чым каты. Ну, бяда толькі з малымі. Як трапіцца плодная, то не ведаеш, што з імі рабіць. Хто топіць іх яшчэ сляпых, хто закопвае, хто вывозіць... Наша Мурка — добры мышалоў, то заўсёды коцікаў раздаем, як толькі іх падгадуе і падвучыць. Найлепшы кот — прыблудны. Нашу Мурку хтосьці маленькую выкінуў з машыны, сама да нас прыйшла. Есці ў хаце не просіць, толькі часам дам ёй малака...

— Патрэбнае ёй тое малако! Хопіць ёй мышэй і птушак! Ано чакае, калі ты з хлява выйдзеш, — злуецца Адам Г. — А дала б чобатам у каплех! А вы што пра *пусякі* людзей пытаеце?! — Многа зарабіў бы ты за тое малако, што кошка выпіла! Вялізнае свінчо ўгадаваў бы!

У вялікай вёсцы С. у леташнюю восень хлопцы з другога і трэцяга класа жыўём палілі жаб. Жабы збіралiся ўвосьмі зімаваць, былі нерухавыя, і не вельмі падабалася хлопчыкам, што плюхалі яны ў вогнішча і канолі без лямантy. Зусім нецікава, сказаў мне потым Ромка Н.

— Што адчувае жаба? Нават не піснe. Яна брыдкая і непатрэбная. А ў мяне дома ёсць коцік і сабака, з імі можна пагуляць... А ў Кавальскіх ёсць „злы пес". Таблічку прыбілі да брамкі. Да яго нават і не падыходзь.

**Міра Лукша**

*P.S. Па просьбе суразмоўцаў — персаналіі да ведама аўтара.*

# Хамава нацыянальнасць

**Да Арыстоцеля аднойчы прычапіўся нейкі балбатун і даўжэйшы час нешта яму тлумачыў, а пасля спытаў:**

**— Не ўтаміў я цябе?**

**— Не, — адказаў Арыстоцель. — Я не слухаў.**

У нядзельку 9-га лютага частка беларускай радыёперадачы была прысвечана арганізацыі навучання беларускай мове ў адной з пачатковых школ Беластока. Пра прагрэс у гэтых захадах радыёжурналіст звярнуўся, як зрэшты і прыстоіла культурнаму чалавеку, да аўтарытэтнейшага ў гэтай справе Сакрата Яновіча. Яновіч сказаў м.інш. „Хам не мае нацыянальнасці". Што ён гаварыў яшчэ, не буду пісаць бо:

— хто слухаў перадачу, той гэта ведае;

— хто не слухаў перадачы, але знаёмы з Яновічавай логікай, той і сам дадумаецца;

— хто не слухаў перадачы і не вывучаў згаданай логікі, той — спадзяюся — правеў час не менш карысна.

Працытаваная думка не кожнаму ў гонар. Каб дакладней прыглянуцца, каго яна кранае, рашыў я крыху пацікавіцца згаданым хамам і ягоным дачыненнем да нацыі. Спярша падаўся я ў глыбокую мінуўшчыну, каб прыглянуцца самому Хаму: меў ён нацыянальнасць ці не. Паводле Пісання Хам нарадзіўся ў 2162 г. пасля стварэння свету, нацыі ж узніклі ў 2792 годзе падчас Вавілонскага вежабудавання, значыць 630 гадоў пасля Хамава нараджэння. Хамавы продкі лёгка пераадолывалі гэты рубеж: прадзед Мафусаіл жыў 969 гадоў, дзед Ламех 777 гадоў, а бацька Ной — 950 гадоў. Колькі жыў Хам — Пісанне не згадвае, затое яго брат Сім жыў 600 гадоў, тры пакаленні Сімавых галоўных наследнікаў па чатыры з лішкам стагоддзі, а наступныя і таго менш. Бачна тут рэзкае падзенне даўгавечнасці: Ноевы ўнукі і праўнукі па Сіму жылі напалову за яго менш. Усё ж такі Хамаву біяграфію можна крыху спрагназаваць. Па Пісанню вядома, што Хам быў чалавекам цікавым свету, але ён быў прывяржэнцам тае цікавасці, якая не вымагае вялікай натугі: не каб нешта ўзараць ці збудаваць, а каб толькі падглянуць дый павесяліцца. З Сімам жа зусім другая справа: быў ён баязлівы, сарамлівы, абавязковы і напэўна працавіты. А гэта ж прыкметы перагружанага арганізма, які доўга не пацягне; ды так і сталася, калі глянуць на яго і ягонага бацькі гады. З Хамам, відаць, было па-другому, таму і Пісанне пакідае пра гэта белую пляму. Можна тады смела меркаваць, што пераадолеў ён тыя 630 на некалькі прынамсі дзесяцігоддзяў. А ці прысутнічаў ён у Вавілоне, калі наступіла перамяшанне моў? Безумоўна: вежу ж будавалі дзеля цікавасці, а Хам быў цікавы бессаромна. Напэўна не мяшаў ён там гліну, толькі займаўся пэўна тым, чым сёння займаюцца г.зв. *gentlemen of leisure* (leisure — па-англійску: прыемнае праводжанне часу). Такім чынам Хам мусіў атрымаць сваю мову і разам з ёю нацыянальнасць.

Толькі наконт патрыяршага Хама. А як тады выглядае справа са звычайным хамам? У слоўнік заглядаць не варта, бо гэта можа звесці з нашага тут панталыку. Паўтара года таму не хто другі, а сам аўтарытэтнейшы Сакрат Яновіч назваў хамулу; не хама, але хамулу — з націскам, каб не было ўжо ніякіх сумненняў! Калі хто не помніць — мова там была пра аднаго тады прэзідэнта, лаўрэата Нобелеўскай прэміі, сусветны сімвал свае нацыі. Калі б супаставіць апошняе з тэзісам, які быў аўтарытэтна працытаваны на пачатку, дык выглядала б, што той сімвал нацыі не мае нацыянальнасці. Вось каб тыя падсімвальныя даведаліся такога ньюса, дык ад смеху, — страх падумаць, — як ад чумы якое... І НАТО не памагло б! А адзін слаўны міністр са сваёй паплай пра „Болька" выглядаў бы пры гэтым усім як мыла налізаўшыся. Гледзячы тады на гэтую праблему сур'ёзна, трэба ўсё-такі зрабіць вывад, што хам аднак мае нацыянальнасць. Мае яе часам нават многа, вельмі многа, а можна яшчэ меркаваць, што бывае і так, што ён ёю цалкам апантаны. Прыкладаў пакуль што не буду прыводзіць.

Любімцы нацыі — Лукашэнка ці Цімашэвіч, асобы вельмі важныя, якія маюць доступ да сакрэтнейшых сакрэтаў і якія маюць вялікае дачыненне з намі, ні разу, так прынамсі мне здаецца, не нагагнулі пра нейкую карэляцыю між хамам і... будзь-якою нацыяй. Дый вогуле яны хіба пра хама не згадваюць.

Англічане, якія гавораць па-англійску, свайго земляка — мужыка-кулака называюць *gentleman farmer*.

Надаеў мне ўжо гэты ...

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Ліст у рэдакцыю

***Шаноўны спадар галоўны рэдактар!***

*Чытаючы ўсе Вашы артыкулы ў „Ніве", я дайшоў да вываду, што галоўнаму рэдактару беларускага тыднёвіка трэба захаваць нейтральнасць у ацэнцы палітычнай сітуацыі ў Беларусі. Вам, на жаль, не падабаецца тое, што дзеецца ў Беларусі. Вам не падабаецца, што 80 працэнтаў беларусаў прагаласавала за Лукашэнку і выбрала яго прэзідэнтам. Калі беларускі народ адкінуў Шушкевіча і Пазьняка, выказаў такім чынам сваю волю. Ваш артыкул „Міфы і факты" („Ніва", н-р 5) паказвае, што шмат чаго не разумееце. Стары беларус раіў Вам не брудзіць свайго гнязда. Спадар Валянцін Семянюк у лісце да рэдакцыі („Ніва", н-р 6) яшчэ раз даказаў, што Лукашэнку выбралі ў дэмакратычных выбарах. Я часта бываю ў Гродне і быў там падчас рэферэндуму. Усе выбаршчыкі, з якімі я гаварыў, заяўлялі, што галасавалі так як прапанаваў Лукашэнка, а прытым адкрыта гаварылі, што калі будзе рэферэндум у справе аб'яднання Беларусі з Расеяй, таксама акажуць падтрымку прэзідэнту ў гэтай справе.*

*Знайце тады, што Беларусь без Расіі нікуды не дойдзе. Калісь Багдан Хмяльніцкі падпісаў дагавор з Расіяй пад лозунгам „Навеки вместе". Сёння нейкія Краўчукі ці Кучмы гэтага не хочуць. Але так ці інакш Украіна вернецца пад крылы Расіі. І прымуць іх, як сваіх.*

*У Беларусі цяпер цяжка жыць. Быў я на Каляды ў Гродне. У крамах усё ёсць, але людзі не маюць за што купляць, хаця на святочным стале была найлепшая каўбаса і каньякі. Урад дазваляе беларускаму народу займацца гандлем. Заводы стаяць, няма каму рабіць, а на мяжы поўна гандляроў. Каб долар каштаваў 100 000 рублёў замест 20 000, тады людзі не ездзілі б, а працавалі б. А тое, што няма збыту на тавары, гэта віна гарбачоўскай перастройкі, якая разбурыла Савецкі Саюз. І няма чаго тут абурацца на беларускі народ, які даверыў свой лёс Лукашэнку. Беларусь і Расія будзе адно і не лівайце бензіну ў агонь, бо Беларусь не пойдзе дарогай Балгарыі, Сербіі, ці Румыніі.*

*Цяпер яшчэ адна справа. Вы напісалі, што Лукашэнка — гэта атэіст і няхрышчаны чалавек. Можа яно і так ёсць, але думаеце, што калі ўжо нехта хрышчаны, тады ён лепшы. У нас у Міхалове, напрыклад, у лістападзе мелі асвяціць школу. Запрасілі двух беластоцкіх епіскапаў — Саву і Шымэцкага. І што — адзін не хацеў бачыць другога. А мы думалі, што такія хрысціяне „przekażą sobie znak pokoju". Што з гэтага, калі нехта ахрышчаны і мае нават метрыку, але ў сэрцы таго хрысціянства ні трохі не відаць, і няма тае сапраўднай хрысціянскай любові. У адным з апошніх нумароў „Нівы" Алесь Барскі вельмі прыгожа піша, што чакае Беларусь. І няхай вам не баліць галава за яе лёс. Лукашэнка вядзе яе ў добрым напрамку.*

***Дзядзька Захар***

# Позірк у мінулае

**3 сакавіка**

1878 г. — у Сан-Стэфана падпісаны мірны дагавор між Расіяй і Турцыяй, які канчаў вайну між гэтымі дзяржавамі на Балканскім паўвостраве. У сілу гэтага дагавора Чарнагорыі і Сербіі прызнавалася поўная самастойнасць. Пасля многавяковай няволі незалежнасць атрымала Балгарыя, якое межы былі вызначаны ад Чорнага мора да Албаніі. Дагавор мацаваў пазіцыю Расеі і ў супрацьдзеянне гэтаму ў Берлін у чэрвені быў скліканы кангрэс, які значна абмежаваў славянскія заваяванні.

**4 сакавіка**

1193 г. — памёр Саладзін, мусульманскі змагар супраць крыжовых паходаў. Народжаны ў 1138 г. у курдскай сям'і, дзяцінства правёў у Сірыі, дзе ягоная сям'я займала важныя дзяржаўныя і ваенныя пасады. У 1152 г. далучыўся да свайго дзядзькі, які пасля падаўся ў Егіпет ваяваць супраць крыжаносцаў. У 1169 г. дзядзька быў назначаны егіпецкім візірам, аднак пасля двух месяцаў памёр і Саладзін заняў яго пост. У 1171 г. звяргнуў ён пануючую дынастыю і стаў уладарыць самастойна, падпарадкоўваючы краіну ісламскім законам. Далучэнне да сваёе дзяржавы Сірыі ў 1174 г. было пралогам да свяшчэннае вайны супраць іншаверцаў. У 1187 г. Саладзін захапіў Іерусалім і адкінуў еўрапейскіх рыцараў на вузкую прыморскую паласу, што прымусіла еўрапейскіх уладароў арганізаваць трэці крыжовы паход. Рыцары не дабіліся аднак поспехаў і былі вымушаны задаволіцца мірным дагаворам, які пакідаў за імі невялікае Лацінскае каралеўства. Саладзін не толькі абмежаваў прысутнасць еўрапейцаў на Блізкім Усходзе, але і прычыніўся да росту магутнасці Егіпта, ствараючы на доўгі час спрыяльныя ўмовы для развіцця гаспадаркі, асветы і культуры.

**7 сакавіка**

1274 г. — памёр Фама Аквінскі, выдатны каталіцкі тэолаг. Народжаны ў 1224 г. у арыстакратычнай сям'і ў цэнтральнай Італіі. Калі яму споўнілася пяць гадоў, сям'я аддала яго ў бенедыктынскі манастыр у Монтэ-Касіна, дзе абатам быў ягоны дзядзька. Калі Монтэ-Касіна стала месцам змагання імперскіх і папскіх войск, Фама пакінуў манастыр і падаўся ў Неапалітанскі універсітэт, дзе сутыкнуўся з членамі Дамініканскага ордэна і, насуперак настойліваму супрацьдзеянню сям'і, стаў дамініканскім манахам у 1244 г. У 1245—52 пашыраў свае веды на універсітэтах Парыжа і Кёльна. Наступныя сем гадоў навучае ў дамініканскай школе ў Парыжы, а ў 1259—69 прабывае ў папскім двары ў Рыме. У 1269 г. вяртаецца ў Парыж, а ў 1272 г. у Неапаль. У 1274 г. направіўся ў Ліён, каб прыняць удзел у саборы; у дарозе захварэў і памёр. Найбольшым творам Фамы Аквінскага з'яўляецца „Сума тэалогіі", над якою працаваў ад 1267 да 1273 г. Напісаў таксама шэраг каментарыяў да твораў Арыстоцеля і Біблії. Ягоны сінтэз натуральных і містычных ведаў — мэта, да якое імкнуліся многія сярэдневяковыя тэолагі, на пачатку ўспрымаўся імі па-рознаму; некаторыя яго догмы былі напр. выкляты парыжскім епіскапам. Яго навука была аднак цёпла прынята ў ягоным Дамініканскім ордэне, становячыся ў 1309 г. абавязковай. У 1323 г. Фама Аквінскі быў кананізаваны, а ягоная навука стала ў 1567 г. афіцыйнай дактрынай Каталіцкага касцёла. **(Ш)**

# *Парнасік*

## Месяц

Месяц свеціць ды не грэе,
Нам у дарозе ісці *бадрэе.*
Не заблудзімся так хутка,
Бо відаць лясную будку.
Ён паказвае свой шлях
Каб мінуць нам лішні крах,
Каб дайсці дамоў шчасліва
І ніколі баязліва.
Месяц — верная планета,
Цэлы год — зімою і летам
Кружыцца вакол зямлі
Свае дванаццаць восем *дні.*
Выглядае таямніча
А таксама маляўніча.
Бачым адзін толькі бок
І, відаць, так не знарок.
Бог стварыў планеты мудра,
А на месяцы мы бачым „кудры":
Гэта горы, што чарнеюць
І ніколі не „паўнеюць".
Месяц — мёртвая планета,
Але ўдзячны мы і за гэта.
На зямлю ён дзейнічае,
Акіяны праслаўляе,
Бо адлівы і прылівы
Чыніць ён цудоўна жыва.
Месяц задумалі адкрыць,
Людзям захацелася жыць.
Амерыканцы заляцелі
І па дарозе спацелі;
Гэта каштавала многа,
Што ахапіла іх знямога.
Ужо пра месяц дый „забылі",
Шлях рашучы не адбылі,
Бо месяц надалей таямнічы,
Цудоўны, спакойны і ваяўнічы.
А ляцець на Марс, Венеру?
Хіба страцім розум, веру!
Не пад сілу нам космас пакарыць
І мо вечна нам там жыць?
На зямлі зрабіць парадак!
Не здзіраць лішні падатак.
А месяц няхай прыгожа свеціць
І нам дароженьку адменіць.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

## Рольмак

„Рольмак" — прадпрыемства,
Яму ўсё ўдаецца.
Яно ў гміне Нарва
Калгасам завецца.
Прэзасам у ім Віктар,
Усе добра знаюць,
Што каўбасу і шынку
Яны там выпускаюць.
У Бельску і Беластоку,
Ды ў Гайнаўцы каханай
Яны з каўбасою
Свае крамы маюць.
Вяндліна ў іх смачна
І недарагая.
У крамы „Рольмаку"
Усіх я запрашаю.
Ешце на здароўе,
Будзьце вы шчаслівы,
Што каўбасу ў крамах
„Рольмаку" купілі.
Дзякуй табе, Рээнт,
Што ты не спужаўся
І Хмелевай спадчынай
Выдатна заняўся.
Надалей рабі так,
Добранька старайся,
Гэтым усе людзі
Будуць любавацца.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. статак коней, 4. лёгкі ранішні мароз, 6. татарская дзяржава, 7. навар, 9. чыгуначная лінія ў Сібіры, 11. раздзел механікі, 12. жаночае імя, 13. закутак, 15. горад на Украіне, 17. нябесныя крупы, 18. рэха, 19. дзяржава з Масквою.

**Вертыкальна:** 1. актыўнае супраціўленне, 2. памідор, 3. абазначэнне словам, 4. нататка, 5. беларускі касманаўт, 6. адасобленая сялянская сядзіба, 8. інструментальны твор з паўторамі галоўнай тэмы, 9. закрытая пасудзіна для вадкасцей, 10. пагроза каралю, якою канчаецца партыя, 14. той, хто прымкнуў да нейкага ўхілу, 16. памяшканне для самалётаў, 17. заданне, даручэнне. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 2 н-ра:**

**Гарызантальна:** хмара, неалагізм, копія, Кафка, моц, абарона, рэклама, гну, актэт, Нагоя, канцэпцыя, ракія.

**Вертыкальна:** Бакачыо, хваля, амік, напарстак, міфалогія, кобра, армія, маг, ЦРУ, нарэзка, тэнар, нацыя.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко і Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# Жыве Беларусь, яна не прададзена!

Хто толькі ўжо не таптаў беларускую зямлю! Татарскія ханы, шведы, польскія паны, французы і жорсткі, падкаваны нямецкі бот. Чорнай хмарай наляталі яны з захаду, поўначы і ўсходу і як каршуны дзяўблі нашых дзядоў і бацькоў, а апошнім часам і нас саміх, бо мяне таксама кранула краёчкам ваенная бяда.

Сёння, чытаючы „Ніву", сустрэнеш у ёй дзікую нянавісць да нас. Скажыце, да чаго прызываюць „Новыя вершы" ў 50 н-ры ад 15 снежня 1996 года, у якіх гаворыцца наступнае: *крывасмокі, ваўкалакі, халуі, у азёрах званы ўжо б'юць, ты сябе і Беларусь прадаеш* і т.п.

Не, гэта няпраўда. Званы, якія ляжаць у вадзе возера, не звіняць і не б'юць. Яны ўтапіліся назаўсёды, так як патапіліся немцы ў Чудскім возеры. Мы не прадаем сябе і сваю зямлю, нягледзячы на тое, хто быў бы яе пакупніком.

Пералётныя птушкі заўсёды адлятаюць у вырай, а мы застаемся і жывём на сваім родным кавалку зямлі, абмытым нашай ваеннай слязою і пасляваеннай напагадзю, таму што мы беларусы. **Вера ГВАЙ**

# Разумныя людзі

— Чула, Сярожа купіў у горадзе памяшчэнне і будзе рамантаваць, хоча зрабіць краму, падзеленую на дзве паловы. У адной будзе прадаваць прамысловыя тавары, у другой — прадуктовыя, — сказала Надзя, уваходзячы ў сваю хату.

— Ну, мае грошы, то і робіць тое, што хоча, — адказаў ейны муж.

— А мае, мае, бо не п'е, як ты, Мікіта. Перад табою трэба хаваць грошы і ўсё сварыцца, каб сяброў не спрашаў на пачастунак.

— А я, як прасіў цябе, каб даў мне два злоты на шакалад, — азваўся іхні пяцігадовы сын Ярак, — ты мне не даў, а вось дзядзьку Толіку піва купіў!

— Што?! — ускіпеў бацька. — Так?! Яшчэ ад зямлі не адрос, а ўжо бацьку крытыкуе!

— Цяпер малыя ведаюць, што добра, а што не! — засланіла малога Надзя. — Ты кінь піць і сяброў паіць! У нас пяцёра ў хаце есці просяць. У гэтым годзе Людка пойдзе ў тэхнікум. Трэба будзе які пакойчык у горадзе ёй наймаць. Праз год Марцін канчае восьмы клас, пойдзе ў...

— А няхай сабе ідуць. Гэтых трое не так хутка куды пойдуць. А, дарэчы, гэта ж Сярожа хацеў з табою жаніцца. Чаму ты за яго не пайшла?

— Палюбіла цябе, дурня, на сваю галаву!

Час ішоў. Кожны ў вёсцы жыў сваім жыццём. Усе зайздросцілі, што Сярожу так добра ідзе гешэфт, дачка і сын працуюць у крамах. Бывала, што Сярожа заступаў у краме сына, калі той ехаў за таварам у „гуртоўню". Усе чыталі з неспакоем, слухалі па радыё, што большае ў краіне лік абкрадзеных крамаў, украдзеных яловак і свіней...

Аднойчы, якраз у нядзелю, усе даведаліся праўды. Сярожавага Роберта з яго чатырма сябрукамі злавіла паліцыя, калі тыя а другой гадзіне ночы перарэзалі дзверы і ўвайшлі ў краму. Такія былі ўпэўненыя „ўдачы", што нават не паставілі каравул. Рабілі гэта яны не раз — абкрадалі па гарадах і вёсках крамы, кралі ў сялян дабытак. Украдзеным таварам дзяліліся і прадавалі яго ў сваіх крамах. Ва ўсіх крамніках інтарэс ішоў добра — тавар дармэны, прадаўшчык свой. Калі зладзеяў перапавілі, зламаліся яны хутка і з усяго выспавядаліся.

Тавар з усіх іхніх крамаў быў перавезены ў спецыяльны склад, крамы забяспечаныя. Арыштавалі ўсіх крамнікаў, значыць — бацькоў зладзеяў ды іх радню-прадаўцоў.

— Вось бачыш, — дапякаў Мікіта Надзі, — якія з іх разумныя людзі. За чужое дабро то і я магу быць такі разумак. Паспрабуй са свайго пажыві, а тое, што я час ад часу крышку вып'ю, гэта не такая страшная бяда.

— Гавары на тэму, Мікіта. Гарэлка таксама да дабра не вядзе. А хто ж падумаць мог, што Сярожавы так робяць. А цяпер вось Зулька плача ў вялікай хаце і саромеецца людзям на вочы паказацца...

**АЎРОРА**


# Ніва

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранович (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1997 r. upływa 5 marca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Пародыі

**Безадказнае каханне**

*Калі хочаш*
*Любі камунізм...*

*Алесь Барскі*

Пакахаў я камунізм, як жанчыну,
Біў за гэта мяне бацька ляшчынай.

А я з дому ўцякаў на партсходы,
Каб пасля бунтаваць ўсе народы.

Пісьмы Леніну пісаў я з Варшавы,
Лёс Расейскай вырашалі мы
дзяржавы.

Калі Зімні штурмавалі
ў Петраградзе —
Кожны радасны сядзеў у сваёй хаце.

А пасля мы будавалі камунізм,
Каб квітнелі ленінізм і барскізм.

Каб натхненне было і каб Крупская
Дазваляла мне пісаць па-беларуску...

Эх, любіў я камунізм! Эх, любіў!
Ты чаму за гэта, бацька, мала біў?

**Сяргей Чыгрын**

# Ой! Жар, жар!

Сеў аднойчы дзед на ложак і закурыў люльку. Баба пачала мыць падлогу; калі загнецца, пакажа прывабныя яшчэ ногі.

Дзеду ўспомніліся маладыя гады. Схапіў ён бабу і пацягнуў у ложак.

— Пусці, стары распуснік! — крыкнула баба. — Дай падлогу памыць...

— Не, памыеш пасля!

Дзед не пусціў бабы ды і не выняў люлькі з зубоў. Попел паляцеў бабе за блузку, запякло. Баба крыкнула:

— Ой! Жар, жар!

Дзед падумаў, што разахвоціў бабу і тая ўжо яго пануквас, ды давай яшчэ больш старацца. А яна ўсё крычыць:

— Ой! Жар, жар! Ой! Жар, жар!

— Здурэла! — сказаў урэшце дзед. — Ты ж ведаеш, што я ўжо стары і не магу так, як маладыя.

— Ты сам дурань! Насыпаў мне жару з люлькі за пазуху і той жар пячэ, а ты мне не спачуваеш.

**Аўрора**

# Ніўка

*Малюнак А. Гуцола*



**У кіпцюрах цацерука**

# Карэктура

Чалавек прынёс апавяданне. Сядзіць цяпер побач акна, хлебча гарбатку і абыякавым зрокам паглядае на другі бок вуліцы.

Я чытаю.

Гавару яму:

— Астаўце, прачытаю потым, ды напішу ў лісце, што і як. І ваш час таксама напэўна цэнны.

— Ой, дарагенькі! Часу ў мяне хоць адбаўляй. Пачакаю. О, тут ля акна сяду. Не буду перашкаджаць? Не? Дык вось... Прачытайце міленькі. Цяпер.

І што было рабіць? Воляй-няволяй чытаю.

„Феадосія нахілілася над сундуком. — Колькі ж багацця! — засмяяліся яе маладыя вочы".

Чалавек ля акна апаражніў шклянку. Феадосія пераапранулася ў вышываны бабулін саян, а я — чытаю. „Была б пара абедаць", — думаю, — а тут якраз Феадосію наведваюць сяброўкі. Фёкла, Яўфімія, Агрыпіна — русакосыя ўсе, апранутыя па-народнаму. На луг ідуць, кветкі зрываюць, вяночкі плятуць. А вечарам танцы, гармонік...

— Гэта першае ваша апавяданне? — пытаю, прачытаўшы апошні сказ.

— Першае, і не першае. Я многа пішу. У будзённы дзень адно апавяданне, а ў святочны — два. Часам такую цягу адчуваю, такую ця-я-гу. Здаецца, свет запісаў бы. А друкаваць яшчэ не друкаваўся.

— Апавяданне, — гавару, — наогул добрае. Мо крыху мала сучаснае. Калі б Феадосію заступіць Аняю, або Хрысцінаю, навучыць яе замежных моў, пасадзіць за камп'ютэр або перад тэлевізарам... А вечарком няхай прагуляецца, у дыскатэку, у кіно няхай сходзіць. Ну, сам разумееце. Вы чалавек, як бачу, яшчэ малады. Падумайце... Паправіце — надрукуем.

Чалавек сапраўды думаў. Можна сказаць — маланкава. Папраўленае апавяданне дайшло да маіх рук на другі дзень.

„Хрысціна сядзела перад тэлевізарам. Глядзела якраз арабскую перадачу тэлебачання Дубай, калі за акном мільганулі знаёмыя хустачкі і вышываныя блузкі. „Дзяўчыны ідуць", — падумала. Глянула на гадзіннік і спалохалася: „А няхай цябе з тэлевізарам! На дыскатэку пара, а тут яшчэ і кветак назрываць, і вянок сплесці".

— Фёкла, Агрыпіна, захадзіце, — замітусілася па пакоі. — Пачакайце хвілінку... я зараз... пераапрануся толькі.

„Хрысціна нахілілася над сундуком. — Колькі ж багацця, — засмяяліся яе маладыя вочы..."

Апавяданне, як бачыце, папраўленае і будзе друкавацца.

Абяцанне — вялікая рэч.

**Міхась Андрасюк**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Гутараць дзве сяброўкі:

— Калі я сваруся з мужам, высылаю сваіх дзяцей у парк, каб не чулі, як мы лаемся.

— Цяпер разумею, чаму вашы дзеці заўсёды сядзяць у парку.

* * *

У бальніцу прыходзіць маладая прыгажуня наведаць хворага. На калідоры сустракае пажылую медсястру:

— У якой зале ляжыць Пеця?

— У чацвёртай; а кім вы будзеце яму?

— Сястрою.

— Вельмі мне прыемна пазнаёміцца з вамі: я — яго маці.

* * *

Размаўляюць англічанка з амерыканкай:

— Мой Том быў вельмі далікатны, — кажа англічанка. — Прыходзіў на чай і толькі праз месяц пацалаваў мяне ў шчаку.

— Ой! — махнула рукою амерыканка. — Мой Джон быў ужо ў адваката і падаваў на развод.

* * *

У канфесіянале ксёндз пытае прозвішча спавядальніцы.

— Вялебны ойча, — гаворыць жанчына, — прозвішча гэта не грэх.

* * *

Гутараць дзве суседкі:

— Які сродак прымяняеце для чысткі дываноў?

— Мужа.

* * *

— Мамачка, выходжу на шпацыр. Патрабую свежага паветра...

— Добра, ідзі. Толькі не забудзь сказаць таму паветру, каб да дзесятай вечара адвяло цябе дадому.

* * *

Прыходзіць баба да лекара. Лекар пытае:

— Ці маеце дрыжыкі?

— А што гэта такое?

— Ну, ці звоняць вам зубы?

— Крыху так, калі яны ў шклянцы.

# Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Парай мне нешта, дапамажы, калі можаш.

Пазнаёміліся мы з ім на ўрачыстым вечары, які адбываўся ў тэатры. Ён сядзеў побач са мною — статны, нестары, але з сівымі валасамі. Гэтыя валасы аднак не столькі дадавалі яму павагі, колькі яшчэ больш рабілі яго маладжавы твар нязвыклым.

Спадабаўся мне гэты чалавек ад першай хвіліны. Які ён быў цікавы! А пры гэтым — далікатны, культурны. Мы разгаварыліся ў часе перапынку. Пасля ён правёў мяне дахаты. Я адчувала, што нарэшце знайшла братнюю душу. Во! Калі б гэты чалавек быў маім мужам, я б яго ніколі не кінула. А так засталася ў трыццаць гадоў адна, толькі з сынам на руках... А чаго ж было чакаць ад таго валацугі...

Нават тады, калі я даведалася, што майму новаму знаёмаму ўжо семдзесят пяць, ён не перастаў мне падабацца. У душы ён быў маладым чалавекам, столькі было ў яго замілавання да жыцця, да ўсіх спраў і падзеяў, якімі жыла краіна і ўсе блізкія яму людзі.

Быў ён усюды, дзе нешта дзеялася, не стаяў збоку, хаця ўжо дзесяць гадоў быў на пенсіі. Мы пачалі сустракацца, а ў маёй душы шчымела: ён жа жанаты! Раз — было мне ніякавата, што раблю свінства яго жонцы, але ён мяне супакоіў, што з жонкай даўно не спіць, а жывуць толькі, як у сям'і. Два — непакоіла мяне пытанне, ці зможа ён кінуць жонку для мяне.

Мае пачуцці станавіліся ўсё больш гарачымі, і цяжка мне ўжо было абысціся без яго хоць адзін дзень. Найчасцей мы сустракаліся ў яго на прыгарадным участку. Было лета, а жонка яго ніколі не ездзіла на свой агарод. Дык я прыязджала туды даволі часта. Быў там прыгожы домік, часта мы і начавалі там. Позняй восенню і зімой мы сустракаліся ў горадзе, хадзілі ў тэатр і музеі, альбо проста ён прыязджаў да мяне. У мяне вялікая кватэра, але толькі адзін раз ён застаўся ў мяне начаваць. Тады жонка ўчыніла яму скандал, не паверыла, што быў на сустрэчы з былымі калегамі з працы і ў аднаго з іх заначаваў.

Ад таго часу жонка пачала нешта падазраваць. Выпытвала ў людзей, а людзі падказвалі ёй ахвотна, дзе бачылі яе мужа і з кім ён „ходзіць". Жонка яго далей скандаліла. Я яму тады сказала: пераходзь да мяне! І ўяві сабе, Сэрцайка, ён не згадзіўся. Кажа: бібліятэкі шкада! А я думала, што ўсё ж такі ён быў прывязаны да жонкі. Хаця яны дзяцей не мелі, то пражылі разам шмат гадоў (ён жаніўся другі раз, калі аўдавеў). А казаў жа, што жонка зусім забылася пра яго існаванне, бо даглядае сваю маму, з ёю спіць, ёй варыць, ёй купляе прысмакі.

Але думаеш, мы не сустракаліся? Усё было, як і раней, ды толькі рабілі мы гэта больш асцярожна, Я не магла абысціся без яго. Каб хоць пазваніць, пагаварыць... Надышло наступнае лета. Ён запрасіў мяне на дачу, на скаштаванне самаробнага віна. Ну, засталася я там начаваць. Ён там сядзеў амаль увесь час, толькі зрэдку прыязджаў дахаты. Падумай, толькі, што зрабіла яго жонка! Прыслала туды свайго брата. Ранічкай ён прыехаў поездам, калі мы яшчэ спалі. Уварваўся ў пакой, нагаварыў нам свінстваў, аблаяў яго і мяне. Было непрыемна і горка. Чаму ж яна толькі цяпер успомніла, што мае мужа? Таму, што перапужалася, што можа яго страціць?!

Жонка на гэты раз не папусціла. Сказала, што адыдзе ад яго, калі ён гэту справу не прыкончыць.

У мяне ў сэрцы ўсё абарвалася: я ўжо ведала, што ён ад жонкі не адыдзе. Як жа мне цяпер затрымаць яго, што рабіць, парай! Я яго так кахаю, што нават хацела б мець дзіця ад яго. Нават калісь я сказала яму пра гэту сваю мару, а ён мне кажа, што ўжо стары і не выхавае сына. Але ж мне ўжо не важна, што давялося б выхоўваць дзіця самой: важна, каб гэта было яго дзіця. Каб засталася памятка ад сустрэч з ім, ад тае радасці, якую даваў ён мне.

Я ўжо нават не хачу, каб ён адыходзіў ад жонкі, абы быў са мною хоць крыху, хоць у нейкай ступені.

**Алёна**

Даражэнькая Алёна! Твае пачуцці можна зразумець, але такая справа, як дзіця, гэта справа дваіх зацікаўленых. Ён табе сказаў, што ён стары ўжо, каб раздаваць такія памяткі, і ты павінна гэта зразумець. Дзіця — гэта не цацка, а чалавек, і грэхам было б свядома пазбаўляць яго бацькі.

Перайдзі да сваіх надзённых спраў і дай спакойна дажыць у сям'і гэтаму чалавеку. Разумная жанчына зразумее маю раду.

**Сэрцайка**